# ЦАРКОЎНЫ



**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

**ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ**

# ПАСЛАНЕЦ

**КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА**

**CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982**

**ГОД 21/27** | **КАЛЯДЫ 1999** | **2/48/58**


## КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ, СЛАЎЦЕ!

З Хрыстовым Нараджэньнем вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да свае роднае Сьвятое Царквы імкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры!

Даходзяць да канца дзьве тысячы год, як у роспачную для чалавецтва пару, калі здавалася, што бязьлітасныя й распусныя сілы гэтага сьвету былі няпераможныя, Бог паслаў на зямлю Ягонага адзінага Сына, каб збавіць людзкі род ад улады злыды й грэху.

Каб зьвярнуць гэтую ліхую ўладу Божы Сын, аднак, ня зыйшоў на зямлю на чале вялізных войскаў, ані ў суправадзе хітрых палітыкаў, або багацеяў, але нарадзіўся Дзіцяткам у глыбокай нястачы, нават не пад хатняй страхою, а там, дзе быў пастой для статку.



Ня гледзячы, усё-ж, на беднасьць, у якой Ён узрос і жыў на зямлі ды на безабароннасьць ад мажных гэтага сьвету, Ягоная Навука любасьці да Бога й да бліжняга чалавека зьвярнула ў друз імпэрыі, сьцерла межы няволі й дала людзкому роду сьведамасьць вышэйшае за собскую карысьць мэты ягонага жыцьця.

З доўгага ланцуга пакаленьняў нам выпала неўзабаве адзначаць канец другога тысячагодзьдзя ад Хрыстовага Нараджэньня - гэтае найвыдатнейшае ў гісторыі чалавецтва падзеі.

Нямала хто ўважае, што гэтае адзначэньне павінна выяўляцца ў нейкіх асаблівых мерапрыемствах, або ў пышных урачыстасьцях.

Успамінаючы, аднак, беднасьць у якой наш Збавец зыйшоў і жыў на зямлі, ды сьціпласьць і любасьць, зь якімі Ён навучаў людзей, ці ня варта было-б нам, замест багатых сьвяткаваньняў у чэсьць зьмены цыфраў у напісаньні году, зазірнуць у нашыя душы й параканацца, ці йдзем мы, што называем сябе хрысьціянамі, следам Збаўцовае Навукі, ці зьбіліся з паказанае Ім дарогі й блукаем зманутыя нягожымі спакусамі гэтага сьвету.

Гэткі агляд сумленьня выявіць, нажаль, што мы ўсе, амаль да аднаго, часта ступаем убочнымі ад Божага шляху сьцежкамі.

Нятолькі бо самыя ня выконваем Божых Наказаў у жыцьці, але й не настаўляем малодшых паводле Хрыстовае Навукі любіць Бога, свой Народ і родны Край, ды ня служым ім добрымі прыкладамі, а нашай мяккасьцяй паказваем, што з благам можна мірыцца.

З таго распуста й брыда заліваюць усе віды інфармацыі й разрыўкі, замест нас кіруючы маладзявыя імкненьні на нястрыманае маральнымі межамі неадкладнае здаваленьне целавых і матэрыяльных захацяў.

Таксама й у бонкавых жыцьцёвых абставінах мы, ня ўзважваючы на просты розум прыгожыя, але зманныя словы й пустыя абяцаньні тых, што бяруць уладу над нашым жыцьцём і будучыняй, бязьдзейна ўпакорваемся ім ды далей корпаемся ў нашых бясконца няплодных пражытных справах.

Калі-ж ад несправядлівасьці й крыўды, брыды ды галечы й безнадзейнасьці нашыя душы шукаюць Знайвышняе патолі й падтрымкі, мы прабуем упрасіць іх у Бога праз пасярэдніцтва тых, што прыкрываючыся пабожнымі словамі, празь вякі служылі й цяпер служаць не Гаспадартву на Небе, а царству на зямлі, што ягонай ненасытнасьцяй на чужое дабро губіла й губіць жыцьці нязьлічаных пакаленьняў.

Апамятаймася-ж, Любыя Браты й Сёстры, й на парозе трэйцяга тысячагодзьдзя ад Хрыстовага Нараджэньня станьма сумленна ўжыцьцяўляць Ягоную Навуку не пад повадам тых, што абяртаюць Яе ў прыладу паняволеньня ды рабунку й загубы, а ў сваёй, з Божае Волі нам дадзенай роднай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Тады бо толькі нашыя прасьбы дайдуць да Найвышняга Пасаду, а нашыя дзеі прынясуць плод нам і наступным пакаленьням нашага Народу.

Няхай-жа Ласка й Апека народжанага ў Бэтлееме нашага Збаўца Ісуса Хрыста будзе заўсёды з Вамі.

\+ *Мітрапаліт Ізяслаў*

Першагерарх

Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

# КАЛЯДНІ АПОКРЫФ

1. У той час мажны й багаты быў Рым, а над ім цэзар меў уладу бязь меж ды яшчэ вельмы народаў былі пад ягонай дзяржавай: гішпане й галы, славы й эліны, арабы й жыды ў Юдэі, Галілеі й Самарыі, а й шмат дзе яшчэ.

2. І ніводзін зь іх ня быў дуж тую ўладу зьвярнуць, дык здавалася, што й канца няволі ня будзе.

3. А што больш зямлі цэзар займаў, дык болей і вояў яму патрэбілася, каб зваяваных трымаць у пакоры й зьдзерці зь іх як-мага больш багацьця.

4. Дужа бо пышна жыў цэзар і ягоныя намесьнікі а ваяводы з процьмаю ўраднікаў і ўсялякіх слугаў, дык і не ставала на ўсё ягонага скарбу.

5. Ажно здумалася ўрэшце цэзару, ці не ўтаіўся хто ад аброку на ягоны скарб?

6. Дык загадаў папісаць усіх падданых, кожнага з родам, зь якога пайшоў.

7. Тады шмат людзёў падалося, нават здалёк, у мейсцы, дзе здавён былі дзеднія асельлі.

8. Быў-жа ў месьце Назарэце, што ў Галілеі, чалавек з царовага Давідавага роду, але зьбяднелы, бо жыў з працы рук, а зваўся ён Язэп.

9. Таму-ж, што Давідаў род выводзіўся з Бэтлеэму, што ў Юдэі, дык і Язэпу давялося йсьці ў тое места, каб лучыць у попіс зь ягоным родам.

10. А паводле цэзаравага загаду й ягоную жонку Марыю йз сабою ў дарогу ўзяў, хоць моцна трывожыўся, бо ў цяжку была й набліжаўся ёй час радзіць.

11. У Бэтлеэме-ж такведе народу зыйшлося, што Язэп з Марыяй, прыйшоўшы туды, не маглі нідзе знайсьці мейсца на начлег, а ўжо цямнець пачынала.

12. Ажно нейкі карчмар на адсельлі займеў літасьць над іхнай бядою, а што ня было мейсца ў гасподзе, дык пусьціў начаваць у павець пры пячоры, дзе стаяў статак.

13. Тае-ж начы прыйшла пара жанчыне й нарадзіла гожае хлапча ды спавіўшы паклала ў жолаб на сена.

14. І як гэта сталася, на небе й на зямлі паказаліся розныя дзівы, бо тое Дзіцятка пайшло ня з мужняга семя, але было пачатае ад Сьвятога Духа, як у Сьвятым Пісьме дзе-інш сказана.

15. Пастухі-ж, што ўдзень на аблоні за местам пасьвілі статак, зыйшоўшыся грамадою на вячэру й пасеўшы ля вогнішча наракалі на нягоднае жыцьцё пад цэзараваю ўладай, ды разважалі прароцтвы празь няпераможнага Змагара, што прыйдзе звярнуць чужацкае займо, ды якія азнакі аб Ім пасьветчаць.

16. Гэтак гутарыўшы пабачылі ясную зорку, што над Бэтлеэмам раптам засьвяціла ды й іншыя дзівы, што паказаліся на небе й на зямлі, і дзіваваліся, але не маглі дайсьці сваім розумам, што магло здарыцца.

17. Тады пачулася ім у небе гудзьба, якое яшчэ на сьвеце ня чулі, і пяяньне гажэй за людзкое, што ў ім гучэла: "Слава ў Найвышшы Богу, а на зямлі злад ды прыяньне наўзаем паміж дюдзьмі".

18. І зараз зьявіліся вельмы ясных постацяў у бліскучых вопратках, зь бялейшымі за птушыныя крыламі, і ахапіў пастухоў ад іхнага віду вялікі жах, ажно пападалі вобзем.

19. Ды мовіў пяродні з гэтага сьвятлівага вельма: "Ня бойцеся! Я, Божы пасланец, вешчу вам добрую навіну - сёнач нарадзіўся Той, што дасьць людзём збаўленьне. Устаньце ды йдзеце ў Бэтлеэм і гэнам пазнаеце Яго, як знойдзеце Дзіцятка, што Маці спавіўшы паклала ў жолаб на сена".

20. Мовіўшы гэта той Божы пасланец-ангал із усім бліскотным вельмам знік увысачы, а пастухі пайшлі ў Бэтлеэм і борзда знайшлі Дзіцятка, бо так трэба было, каб збылося прароцтва.

21. Пабачыўшы-ж Дзіцятка, пакланіліся Яму ды казалі ўсім людзём, што былі тамака зыйшоўшыся, навіну, што пачулі ад Божага пасланца й пайшла праз тое далёка ўскрозь чутка.

22. І быў пры гэтым адзін чалавек, што жыў з паслугаў розным гаспадарам, ды ўсё гэта ён бачыў і чуў.

23. А як мінула малавеле часу прыйшлі яшчэ тры падарожныя з далёкага краю й апытвалі дзе нарадзіўся Юдэйскі цар, каб Яму пакланіцца.

24. Бо йшлі за яснаю зоркай, што, паводле прароцтва, устала над Бэтлеэмам.

25. Той-жа чалавек, што бачыў Дзіцятка ў павеці, паказаў ім дарогу ды атрымаў за тое шчодрую заплату.

26. У Юдэі-ж тады, пад цэзаравай уладай, правіў цар Ірад, а што вельмі ліхі быў, дык і баяўся, каб закалот у народзе ня стаў, празь які ён згубіў-бы пасад.

27. Дык неўзабаве празь ягоную асоку ўведаў навіну ды гэтак устрывожыўся, ажно наважыў загубіць Дзіцятка.

28. Але ў тую пару Язэп з Марыяй ды Дзіцяткам былі ўжо выбраўшыся з павеці й ніхто ня ведаў дзе прыпыніліся.

29. Дык ня змогшы напасьці на іхны сьлед, той люты цар Ірад, каб мець пэўнасьць, што Дзіцятка загіне, загадаў пазабіваць усіх хлапчат, ад немаўляці аж да трох год, і ўзьняўся плач ды пайшло галашэньне па ўсёй чыста Юдэі.

30. Здарылася-ж таму чалавеку, што ў ноч, як нарадзілася Дзіцятка, за пастухамі быў увайшоўшы ў павець, неяк сустрэць Язэпа ды пазнаўшы яго, зглядзець, дзе той стаў на гасподзе.

31. А як пачуў Ірадаў загад, падумаў сабе: "Калі-б праўду казалі тыя пастухі, дык ня сталася-б праз тое Дзіцятка гэткая бяда па ўсёй Юдэі. Ці-ж справядліва, каб праз аднаго зьгінула гэтулькі нявінных?

32. Няма раўні цэзаравай сіле, ані пяроку царовай волі, дык лепш быць па іхным баку.

33. Бо, калі дужыя й багатыя, ды мудрыя а наўчоныя ўсупраць няволі не стаюць, дык што здолець Дзіцяці зь беднага роду?"

34. З тае надумы й пайшоў у царовыя харомы ды ўдаў. І ўсьцешыўся цар Ірад ды даў яму ўволю пад'едку й адзежыну, якое той чалавек яшчэ ніколі ня меў.

35. Тады-ж выправіў яго цар з войскам пайняць ды загубіць Дзіцятка, каб не ўзрасло зрынуць цароў пасад, ані зьвярнуць цэзаравую ўладу.

36. Але ўпярэднач Язэпу ў сьне зьявіўся Божы пасланец і мовіў: "Устань, вазьмі жонку й Дзіцятка, ды ўцякай ў Ягіпет. Тамака-ж жыві пакуль Іраду прыйдзе канец!"

37. І падаўся Язэп у Ягіпет, як было яму наказана ды жыў там між жыдоў, што паўцякалі ад Ірадавае крыўды.

38. Ірадавыя-ж вoі з чалавекам, што ўдаў, прыйшлі ў гасподу, дзе той бачыў Язэпа, але нікога там не засталі.

39. З таго дужа ўгнявіўся цар Ірад і загадаў укінуць таго чалавека ў вастрог.

40. Ды ўзноў паслаў вояў забіваць хлапчат і загінула шмат тысячаў.

41. Неўзабаве-ж пасьля таго занядужаў і сам цар Ірад, а ўсьлед і памёр.

42. Тады, дачуўшыся, вярнуліся зь Ягіпту Язэп з Марыяй ды Дзіцяткам.

43. Тое-ж Дзіцятка ўзрасло й стала навучаць людзёў, як пішa праз тое Дабравесьць.

44. І прыйшоў час, калі ўпала цэзаравая ўлада, дзе толькі была.

45. Ды не ад зброі й багацьця, але праз Навуку таго Дзіцятка - нашага Збаўца Ісуса Хрыста.

46. Зраднік-жа, што веры ня меў, дажыў скону ў цямніцы ды ягонае ймя пайшло ў няпамяць.

Знайшоў ды нашай мовай пераказаў Верац

# МІТРАПАЛІТ РЫГОР ЦАМБЛАК
## 1364? - 1452?

Адно з найбольш пачэсных мейсцаў у нашай царкоўнай гісторыі займае мітрапаліт Рыгор Цамблак, што ачоліў мітраполію нашае Царквы ў 1415 годзе.

Паходзіў ён з выдатнага баўгарскага роду зь места Тырнава, дзе нарадзіўся прыблізна ў 1364-м годзе.

Некаторыя зь ягоных родзічаў займалі высокія становішчы пры імпэратарскім двары ў Канстантынопалі й яму была адчыненая дарога да значнае сьвецкае пасады, але ён выбраў духоўніцкую службу й спачатку быў пры патрыярсе, а пазьней перайшоў у падпарадкаваньне Малдаўскага мітрапаліта й быў сьпярша ігуменам Дэчанскага манастыра ў Сэрбіі ды ўсьлед Палінаірскага грэцкага.



Ягоны дзядзька, Мітрапаліт Кіяўскі й усяе Русі Цыпрыян, што быў перабраўшыся ў Маскву, незадоўга перад сьмерцяй запрасіў Рыгора да сябе, відаць, з намерам найменаваць яго на свайго наступніка на мітрапалічым пасадзе.

Але пакуль Рыгор быў у дарозе да Масквы, мітрапаліт Цыпрыян памёр і давялося спыніцца ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе неўзабаве зьвярнуў на яго прыхільную ўвагу вялікі князь Вітаўт.

Пасьля сьмерці мітрапаліта Цыпрыяна вялікі князь Вітаўт прасіў Канстантынопальскага патрыярха паставіць на мітрапаліта Полацкага япіскапа Хвядоса, грэка з паходжаньня, з умоваю, каб той ня ехаў у Маскву, а жыў у Кіяве.

Пасылаючы гэтага япіскапа на зацьверджаньне ў Канстантынопаль вялікі князь Вітаўт пісаў: "Пастаўце нам мітрапаліта, каб ён стала сядзеў пастарому ў Кіяўскай Мітраполіі й будаваў Божую Царкву падаўнейшаму, як наш: дзеля таго, што з Божае волі мы валодаем горадам Кіявам".

Аднак у Канстантынопалі палічылі больш выгаднымі дамаганьні Маскоўшчыны й зацьвердзілі падтрымоўванага ёю кандыдата грэка Фоція.

Вялікі князь Вітаўт неахвотна пагадзіўся на падпарадкаваньне япархіяў Вялікага Княства Літоўскага Фоцію, а калі пабачыў, што той, замест пабацьцоўску імі апекавацца, пачаў вывозіць царкоўныя каштоўнасьці ў Маскву й накладаць вялікія падаткі на вернікаў, дык угнявіўся на яго й загадаў высяліць зь Кіява Фоціявага намесьніка зь ягонымі памочнікамі, канфіскаваў назьбіранае імі дабро, а мітрапалічую майнасьць узяў пад свой нагляд.

Імкнучы пазбыцца чужое царкоўнае ўлады ў ягоным гаспадарстве Вітаўт на гэтым, аднак, ня спыніўся й у 1414-м годзе склікаў сабор япіскапаў, на якім было пастаноўлена ня вызнаваць зьверхнасьці Фоція над япархіямі ў Літоўскім Гаспадарстве, а выбраць на Літоўскага Мітрапаліта Рыгора Цамблака.

Нажаль, калі Цамблак прыехаў на зацьверджаньне ў Канстантынопаль, патрыярх, дагаджаючы Маскве, адмовіўся гэта зрабіць.

Патрыярхаў учынак ня ўстрымаў, аднак, далейшых Вітаўтавых плянаў, а прысьпяшыў іхнае выкананьне, бо ўжо на пачатку 1415-га году ён узноў склікаў сабор япіскапаў, на якім былі пацьверджаныя непадпарадкаваньне літоўскіх япархіяў Маскве й выбар Рыгора Цамблака на мітрапаліта.

Але й гэтым разам высланае ў Канстантынопаль пасольства вярнулася з адмоўным патрыярхавым адказам.

Тады вялікі князь Вітаўт склікаў Краёвы Сабор і на ім Рыгор Цамблак быў канчаткова зацьверджаны Літоўскім Мітрапалітам.

Ягонае пастаўленьне на мітрапалічы пасад адбылося 28-га лістапада 1415-га году ў царкве Найчыстае Божае Маці ў Навагрудку.

У Навагрдзкім Саборы бралі ўдзел: Полацкі архіяпіскап Хвядос, япіскапы: Чарнігаўскі Ісаак, Луцкі Дзяніс, Уладзімерскі Герасім, Тураўскі Яўхім, Пярэмышлянскі Гялась, Смаленскі Савасьцян, Холмскі Харытон, архімандрыты, ігумяны, манахі й белае духавенства, ды вернікі з цэлага краю.

Быў прысутны на ім і вялікі князь Вітаўт з усімі князямі Вялікага Княства Літоўскага ды вяльможамі й баярамі.

На Саборы была прыйнятая пастанова наступнага зьместу: "Мы, япіскапы, зыйшоўшыся ў Новым Горадзе Літоўскім у Царкве Найчыстае Божае Маці, з дадзенае нам Сьвятым Духам Ласкі, паставілі Мітрапалітам нашае Сьвятое Царквы Рыгора, паводле наказу Сьвятых Апосталаў, што ў іхных правілах пішуць: "два, або тры япіскапы пастаўляюць мітрапаліта". Гэтак перад намі дзеялі япіскапы за вялікага князя Ізяслава. Таксама дзеялі родныя нам баўгары, што раней за нас прыйнялі хрышчэньне, і сэрбы, што найменавалі сабе Прасьвіцера собскімі япіскапамі, хоць сэрбская зямля без раўні меншая за рускую, што знаходзіцца пад уладай Вялікага Князя Вітаўта. Але што гаварыць праз баўтараў і сэрбаў? Так устаноўлена Сьв. Апосталамі. Ласка Сьв. Духа роўна дзее на ўсіх праваслаўных япіскапаў: пастаўленыя Самым Госпадам Апосталы пастаўлялі іншых, і гэткім спосабам Ласка Сьв. Духа дайшла й да нас пакорных. І мы, як вучні Апосталаў, маем уладу пасьля выспытаў пастаўляць Саборам пастыра нашай Бацькаўшчыне".

Апрача акту пастаўленьня Рыгора Цамблака на мітрапаліта на Краёвым Саборы, захаваўся яшчэ ліст сабору япіскапаў да маскоўскага мітрапаліта Фоція наступнага зьместу:

"Фоцію, былому некалі Мітрапаліту Кіяўскаму й усяе Русі! Мы, з ласкі Сьв. Духа япіскапы Кіяўскае Мітраполіі пішам і заяўляем наступнае: ад самага пачатку твайго прыходу мы бачылі, што ты шмат робіш нязгодна з устаўным апостальскім правілам, але мы цярпелі цябе паводле правілаў, як нашага мітрапаліта й чакалі ад цябе паправы. Тое-ж, што мы пачулі праз цябе й у запраўднасьці пераканаліся ў некаторых справах, нятолькі нязгоднае з царкоўнымі правіламі, але ставіць вінаватага пад пазбаўленьне (годнасьці-рэд.) й праклён - у чым сам, зьверыўшы тваё сумленьне, прызнаешся; хоць мы, не называем тае справы, ня хочучы цябе сароміць, але абвяшчаем табе, што ня вызнаем цябе больш праўным япіскапам і гэта нашае апошняе да цябе слова".

На гэты ліст маскоўскі мітрапаліт Фоці адказаў шырака разасланым абежнікам, у якім войстра асудзіў пастанову Навагрдзкага Краёвага Сабору й напісанага япіскапамі ліста.

Ён зьвінаваціў мітрапаліта Рыгора ў адступніцтве й заклікаў усіх праваслаўных у Ліцьве ня вызнаваць таго, а трымацца яго - Фоція.

Маскоўская-ж княжая ўлада яшчэ ад сябе пастаралася адмоўна насьвятліць зайснавалы факт стварэньня асобнае Літоўскае Мітраполіі перад дагодлівым ёй Канстантынопальскім патрыярхатам, у выніку чаго Патрыярх Яўхім у 1415-м і Язэп у 1416-м наклалі на Рыгора Цамблака праклён.

Сьледам за імі й у Маскве ў Нядзелю Праваслаўя ў 1416-м годзе таксама была агалошаная яму анафема.

Не адчуваючы, аднак, на сабе ніякае віны й карыстаючыся падтрымкай япіскапату, духавенства й вернікаў, а таксама вялікага князя Вітаўта Мітрапаліт Цамблак зайняў свой пасад і пачаў правіць Літоўскай Мітраполіяй.

Правіць ёю ня было проста й лёгка, бо пасьля таго як папярэднія Кіяўскія мітрапаліты перабраліся ў Маскву, мітраполія заняпала й ёй цяжка было супрацiўляцца наступу каталiцтва, што ў выніку Ягайлавага жанімства з польскай каралевай стала дзяржаўнай рэлігіяй у Вялікім Княстве Літоўскім.

Адчуў на сабе гэты каталіцкі наступ і мітрапаліт Цамблак, бо вялікі князь Вітаўт із спадзеву на падтрымку Папам ягоных незалежніцкіх імкненьняў прымусіў яго ў 1418-м годзе паехаць на сабор у Канстанцы, што, як ведама, меў на мэцэ злучэньне пад папскаю ўладаю заходняе й усходняе цэркваў.

Ані сам мітрапаліт, ані ачоленая ім дэлегацыя, аднак, князявых намераў ня выканалі, заявіўшы, што: "прыбылі на загад іхнага князя, але падпарадкавацца Папу не жадаюць".

Гэткім чынам Канстанцкі сабор скончыўся бязвынікова й ў верасьні 1419-га году мітрапаліт Цамблак вярнуўся з падарожжа ў Літву.

Усё-ж, ня гледзячы на ягоную адмову далучыцца да вуніі, удзел у Канстанцкім саборы, пэўна-ж, абмахляваны Масквою й Канстантынопалям як зрада веры, няпрыхільна настроіў да яго царкоўных дабрадзеяў і праваслаўных вернікаў.

Таксама перастаў падтрымоўваць яго й вялікі князь Вітаўт, што, імкнучыся стаць літоўскім каралём, стараўся праз пагадненьні з суседзямі забясьпечыць цэласьць і мір ягонае дзяржавы.

У выніку гэтых няспрыяльных абставінаў мітрапаліт Цамблак пакінуў ягоны пасад і падаўся сьпярша ў Сэрбію, а пазьней, каля 1431-32 га г. вярнуўся ў Малдавію, дзе, пад імём схімніка Гаўрылы, ажно да ягонае сьмерці, прыблізна ў 1452-м годзе, працаваў над укладаньнем румынскага алфавіту й апрацоўкай царкоўна-славянскіх багаслужбовых кнігаў.

Пастаўленьне Рыгора Цамблака на чало Літоўскае Мітраполіі, ня гледзячы на кароткі час ягонага прабываньня на гэтым пасадзе, было вызначным знакам пачатку нясьціхлага да сёньня змаганьня праваслаўных вернікаў нашага Краю за незалежную адвонку Царкву.

Ён бо, у запраўднасьці, ачоліў не аспрэчваную Масквою Кіяўскую мітраполію, а на справе зайснавалую Літоўскую, пасадным местам якое стаў сьпярша Навагрудак, а пасьля Вільня.



Вялікі князь Вітаўт просіць Канстантынопальскага патрыярха паставіць Рыгора Цамблака на мітрапаліта. Русс. илл. летоп. свод XVI в.



Пастаўленьне Рыгора Цамблака на мітрапаліта. Русс. илл. летоп. свод XVI в.

Ягонае саборнае пастаўленьне на мітрапалічы пасад было нятолькі фактам зайснаваньня гэтае мітраполіі, але й абвешчаньнем, ды першым крокам да асягненьня аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы Вялікага Княства Літоўскага, спадкаемніцай якое ёсьць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

У спрыяльных палітычных умовах нашая Царква, як паказваюць прыклады цэркваў іншых народаў, ужо даўно аўтакефалію асягнула-б, усё-ж, ня гледзячы на няўдачу, той першы крок да яе за Рыгора Цамблака ёсьць і будзе нам павадным сьвятлом на шляху да асягненьня гэтае мэты.

На гэтым сьлед мітрапаліта Рыгора Цамблака ў нашай і агульнацаркоўнай гісторыі, аднак, ня канчыцца, бо, з роду маючы красамоўны й пісьменьніцкі талент, ён пакінуў па сабе больш як 40 пісаных твораў, пераважна панэгірычнадыдактычных "словаў", зь якіх да сёньня захавалася больш як 20.

У літоўскую пару ягонае дзейнасьці, ён напісаў каля 10 твораў, найбольш значныя зь якіх "Надмагільнае слова мітрапаліту Цыпрыяну" і "Пахвальнае слова патрыярху Яўхіму.

Творы напісаныя вобразнай мовай, багатыя мэтафарамі, параўнаньнямі, антытэзамі, рознымі складанымі фігурамі.

Літаратурная спадчына Рыгора Цамблака была шырака распаўсюджаная й добра ведамая ў Вялікім Княстве Літоўскім ды за ягонымі межамі.

Зь бібліятэкаў Супрасля, Жырава, Вільні захавалася больш як 200 зборнікаў зь ягонымі творамі, што, пэўна-ж, зрабілі немалы ўплыў на разьвіцьцё беларускае аратарскае прозы.

Выдатнасьць асобы Рыгора Цамблака й ягонае творчасьці ўжо не ад сёньня прыцягае ўвагу навукоўцаў сьвету.

Праз багацьце пакінутае ім, нятолькі прапаведніцкае, але й навуковае спадчыны ў галінах гісторыі, літарутуры й музыкі, сьветчыць вялікі лік прысьвечаных ёй й асобе Рыгора Цамблака навуковых сымпозыюмаў, дасьледніцкіх працаў і папулярнае літаратуры, што разглядаюць ягоны ўклад у духовую культуру Баўгарыі, Сэрбіі, Румыніі й Малдавіі.

Нажаль, нашмат менш дасьледаванае й папулярызаванае Цамблаковае ймя ў Беларусі.

Горш яшчэ тое, што беларускія нацыянальныя гісторыкі й публіцысты, маючы тэндэнцыю як мага больш пазытыўна ацэньваць вунію ды адначасова прыніжаць ролю Праваслаўя ў нацыянальным і культурным станаўленьні беларускае нацыі, падыходзяць з гэтым ухілам і да асобы Рыгора Цамблака.

У выніку, пры адсутнасьці дастатковае колькасьці фактаў іхныя працы перанасычаныя безьлічай памылак і неабгрунтаваных высноваў.

Прыкладам на гэта можа быць артыкул "Заснаваньне Літоўскае Мітраполіі" з кнігі "100 пытаньняў і адказаў з гісторыі Беларусі" (укладальнікі У. Арлоў і Г. Сагановіч, Мн. 1994), што ўваскрашае даўно разьбіты міт праз нібыта схільнасьць Рыгора Цамблака да вуніі.

Запраўды, у свой час некаторыя каталіцкія гісторыкі (А. Цыглер, А. Лайдл й інш.) інтэрпрэтавалі факт прысутнасьці Рыгора Цамблака на саборы ў Канстанцы як падрыхтоўку да вуніі Праваслаўнае Царквы Вялікага Княства Літоўскага з Рымам.

За імі й сучасныя беларускія гісторыкі намагаюцца ўзьняць вагу вуніі, паклікаючыся на аўтарытэт нагэтулькі выдатнае асобы, як мітрапаліт Цамблак.

Каб паказаць нявыпраўданасьць гэтага цьверджаньня спашлемся на артыкул нямецкага гісторыка Ганса Дытэра-Допмана "Митрополит Григорий Цамблак и иеговото отношение към римската църква на Констанцкие Събор", надрукаваны ў кнізе "Григорий Цамблак. Живот и творчество" (София. 1984).

Нямецкі дасьледчык катэгарычна сьцьвярджае праз адмоўнае стаўленьне Рыгора Цамблака да ідэі вуніі.

Паводле думкі дасьледчыка, Цамблак нятолькі пацьвердзіў ягоную вернасьць Праваслаўю, але й падтрымоўваючы ў ягоным "Пахвальным слове Яўхіму Тырноўскаму" абвешчаную супраць нязгоды Канстантынопальскага патрыярха аўтакефалію Баўгарскае Праваслаўнае Царквы, ухваліў ідэю аўтакефаліі праваслаўных цэркваў іншых народаў.

Празь Цамблаковую вернасьць Праваслаўю пісалі таксама й аўтарытэтныя расейскія гісторыкі С. Салаўёў і Е. Галубінскі.

Гісторык А. Яцымірскі ў кнізе "Григорий Цамблак" (СПБ. 1904) пісаў, што Цамблак у ягоным слове ў Канстанцы выказаў перакананьне, што толькі Хрыстос ёсьць Галавою Царквы й, што задзіненьне цэркваў магчымае адно пры іхнай поўнай раўнапраўнасьці, ды на аснове догматаў, прыйнятых да падзелу.

Вунія-ж, замест таго, ёсьць цалковым падпарадкаваньнем усходняе царквы заходняй.

Гэткую Цамблаковую пазыцыю пацьвердзіў і нямецкі пісьменьнік Ліндэнблат.

Урэшце ведамы расейскі царкоўны гісторык А. Карташоў у ягонай кнізе "Очерки по истории русской церкви" (Парыж, 1959, т. I, б. 35) напісаў: "Гісторык із усёй станоўкасьцяй павінен адкінуць накінутае на гэтага мітрапаліта абвінавачаньне ў вуніяцтве".

Парадаксальна, што ў ваблічны фактаў і сьветчаньняў замежных гісторыкаў, сучасныя беларускія гісторыкі-незалежнікі намагаюцца ўсяляк выпраўдаць і ўхарашыць вунію - гэты твор падняволеньня й акупацыі, ды прыкладу зьнішчэньня нашае ранейшае Праваслаўнае Царквы, а за ёю й Вялікага Княства Літоўскага - нашае даўняе дзяржавы.

Яшчэ больш парадаксальна, што сёньня, напрыканцы XX-га стагодзьдзя, тым, што выступаюць за незалежнасьць ня відная іншая, апрача вуніі, магчымасьць рэлігійнага адраджэньня Беларускага Народу.

Ці ня варта было-б, замест пашыраньня міфу аб роднасьці й нацыянальным абліччы вуніі ў нашай мінуласьці, успамінаць гістарычную рэалію, а менавіта Сьвятую Праваслаўную Царкву ў Вялікім Княстве Літоўскім, адным з эпізодаў гісторыі якое выпала стаць Рыгору Цамблаку?

Праваслаўе бо было духоваю сілаю й злучвом, што ўзрасьцілі веліч Полацкае Дзяржавы й стварылі моц Вялікага Княства Літоўскага.

Яно мае вялікія традыцыі, багатую гісторыю й глыбокія духовыя карані ў нашым народзе, ды застаецца вераю ягонае пераважнае большасьці, да якое нельга ставіцца абыякава, або й адлучаць яе ад нацыянальнага адраджэньня, ды дзяржаўнага будаўніцтва.

Багацьце-ж веры нашых продкаў, зь імём мітрапаліта Рыгора Цамблака захоўвае й памнажае Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

В. Бражэвіч

## ПСАЛЬМ 141

Як моц да Бога я гукаю,
Маю прасьбу я моцна галашу,
Яму жальбу ўсю выяўляю
Й маю бяду ўсю чыста я кажу.

Як з жаху дух мой упадае,
Адкрыць мне ўперад сьцеж Яго прашу,
Сілкі бо на мяне стаўляюць
На ўсіх шляхах, што імі я хаджу.

Вакол сябе я пазіраю,
Ніхто ня відзен па маім баку,
Ніводзін празь мяне ня дбае
Й няма з памогай выцяг хто-б руку.

Цябе, Гаспадару, ўпрашаю,
Кажу: адно Ты дуж, каб ахіліць,
Ты чыста ўсё, што толькі маю
Сярод жывых я гэтта на зямлі.

Пачуй-ж мяне, як распачаю,
У мае бяды нявыхадным кліне
Ды збаў ад тых, што нападаюць,
Куды дужэй яны бо за мяне.

Маю душу Ты вызваль з пуцьця
Й Тваё Імя, як жыцьму я ўсхвалю,
Пры мне праўотныя зьбяруцца,
Тваю як мне пабачаць дабрыню.

## ДЗЯКУЕМ!

Газэта "Голас Радзімы", што выдаецца ў Менску, у № 44 (2654) з 3-га лістапада г.г. перадрукавала выясьненьне Кансысторыі БАПЦ ў справе сэкты "патрыярха" Эмігідыюша Рыжага, што бяссорамна крадзе й няславіць на Бацькаўшчыне імя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Тая-ж газэта ў № 48 (2658) зь 1-га сьнежня г.г. надрукавала прысланае Кансысторыяй БАПЦ апісаньне асьвячэньня новае царквы парахвіі Сьв. Ап. Пятра й Паўла БАПЦ ў Кілкэны, што ў Паўдзённай Аўстраліі.

У абедзьвех публікацыях, няйнакш як з асьцярожных меркаваньняў, выпалі некаторыя радкі, або былі зробленыя папраўкі, але іхны сэнс у аснове не зьмяніўся.

Кансысторыя БАПЦ дзякуе Рэдакцыі "Голасу Радзімы" за дапамогу ў пашырэньні праўды аб беларускім праваслаўным жыцьці й заклікае йсьці ў гэтай справе ейным сьледам дэмакратычную беларускую прэсу.

## ЗА ШТО ЗМАГАЛІСЯ, НА ТОЕ НАНІЗАЛІСЯ

Як паведамляюць устрывожаныя будучыняй парахвіі й Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы вернікі з Кліўлэнду, там увосені быў прададзены дарагі іхным сэрцам, бо пастаўлены іхнаю й іхных бацькоў працай ды ахвярамі будынак царквы Жыраўскае Іконы Божае Маці.

Продаж адбылася наўсуперак пісьмовага пратэсту 30-ці з гэтых вернікаў, што нятолькі ня быў уважаны М. Мацукевічам, за ўладу якога яны так шчыра й зь вялікімі выдаткамі змагаліся, але й яны самыя былі абазваныя абразьлівымі словамі.

Пры продажы выясьнілася, што царкоўны будынак падчас змаганьня за тую ўладу быў перапісаны на М. Мацукевіча й К. Стара.

Ня гледзячы на жаданьне парахвіяў іншых праваслаўных юрысдыкцыяў купіць будынак, ён быў прададзены нерэлігійнай установе й што зь ім будзе няведама.

Вернікі-ж мусяць цяпер езьдзіць ажно ў Стронгсвіл у будаваную за грошы з гульні "бінго" на заарэндаванай зямлі, завялікую на іхную колькасьць новую царкву.

## СЬВЯТА Ў КІЛКЭНЫ

Узнаўшы на чужыне дзейнасьць зьліквідаванае бязбожнай савецкай уладай на Бацькаўшчыне й прададзенае зрадным япіскапатам ў замежжы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, пасьляваенная беларуская эміграцыя, асяляючыся ў канцы 40-х і пачатку 50-х гадоў у заморскіх і заакіянскіх краінах дбала нятолькі праз матарыяльнае ўладкаваньне, але й праз захаваньне роднае рэлігійнае ды нацыянальнае спадчыны.

Паколькі-ж рэлігійная й нацыяналная спадчына неразлучна павязаныя між сабою, дык і дзейнасьць эміграцыі ў большых асяродках ейнага асяляленьня ад пачатку была накіраваная на заснаваньне парахвіяў БАПЦ ды здабыцьцё царкоўных будынкаў, што служылі-б разам і грамадзкім патрэбам.

Беларуская грамада, што апынулася ў аўстралійскім месьце Адэлайда, хоць і ня дужа вялікая, але пабожная й дзейная, пайшла тым самым шляхам.



Царква Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Кілкэны, П.А.

Зь ініцыятывы сьв. пам. а. мітр. пратаярэя Міхаіла Шчурко там неўзабаве засноўваецца ачоленая ім парахвія БАПЦ Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла, што спачатку малілася ў найнятых памяшчэньнях, а ў 1963-м годзе, дзякуючы нястомнай працы ейнага кіраўніка й вернікаў, пабудавала собскі царкоўны будынак ды залю ў частцы места называнай Гайндмарш, якія асьвяціў аселы тамсама сьв. пам. архіяпіскап Сяргей.

Пасьля сьв. пам. а. Міхаіла Шчурка парахвію ачольвалі й ейную дзейнасьць, з дапамогай парахвіяльных радаў прадоўжвалі сьв. пам. айцы Васіль Чычэліс, Аўген Сітнік і Міхаіл Бурнос.

Нажаль падчас пастырскае службы а. Міхаіла Бурноса парахвіі выпала цяжкое выпрабаваньне, бо як ужо раней паведамлялася, на будову футбольнага стадыёну да Алімпійскіх Гульняў, што адбудуцца ў 2000-м годзе ў Аўстраліі, пару год назад была выбраная плошча зараз-жа каля царкоўнага будынку Парахвіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла.

Пляны праекту паказалі, што карыстацца на рэлігійныя патрэбы царкоўным будынкам пасьля пабудовы стадыёну стане немагчымa.

З увагі на гэта кіраўнік парахвіі а. прат. Міхаіл Бурнос і Парахвіяльная Рада зьвярнуліся да аўстралійскіх уладаў з просьбай паправіць выніклую з праекту шкоду парахвіі, што пагражала ейнаму далейшаму існаваньню.

Дзякуючы іхнай настойлівасьці й пасярэдніцкай дапамозе сп. Пітэра Гупэра ўлады паставіліся да просьбы прыхільна ды, не зважаючы на вялікі кошт, згадзіліся пабудаваць новы царкоўны будынак і парахвіяльную залю ў іншым мейсцы.

Гэтае мейсца было знойдзенае ў Кілкэны, што 4.5 км падарозе ад папярэдняга й было дастатковым нятолькі на царкву ды залю, але й пабудову дому для сьвятара ды на палетак, дзе стаўляць самаходы.

Шчодрая ўладавая прапанова была прыйнятая Парахвіяй і 17-га красавіка г.г. адбылося асьвячэньне прызначанае на пабудову царквы плошчы, якое выканалі а.а. пратапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі з Мэлбурну й, узнагароджаны на Вялікдзень Я. М. Мітрапалітам Ізяславам за заслугі перад БАПЦ мітрай, а. мітрафорны пратаярэй Міхаіл Бурнос.

Неўзабаве пасьля гэтага пачалася будова новае царквы, заканчэньне якое прадбачылася на пачатак верасьня й асьвячэньне будынку было вызначанае на 18-га й 19-га таго-ж месяца.

Нажаль здароўе а. мітр. прат. Міхаіла Бурноса не дазволіла яму дабыць на чале пачатае справы й ён быў прымушаны пайсьці на спачын, а ягонае мейсца згадзіўся зайняць сьвятар зь вялікім пастырскім дазнаньнем, а. пратапрасьвіцер Пётр Касацкі.

Пад ягоным кіраўніцтвам і дзякуючы ахвярнай працы Парахвіяльнпе Рады ды некаторых іншых парахвіянаў за кароткі час усё было належным чынам прыгатаванае да ўрачыстасьці.

А 3-й гадзіне п.п. ў сыботу, 18-га верасьня г.г., айцы пратапрасьвіцеры Пётр Касацкі й Аляксандар Кулакоўскі з грамадою каля 120-ці вернікаў, што былі зыйшоўшыся ў новым царкоўным будынку, паселі на дастаўленыя штатным урадам аўтобусы ды паехалі ў старую царкву, каб забраць адтуль усе сьвятасьці.

З гэтымі сьвятасьцямі ў новую царкву на чале з а. пррсв. Пятром Касацкім ды хорам пешкі йшло каля 60 вернікаў, зь якіх сп. Валеры Шадзькоў нёс крыж, сп.сп. Міхась Шчурко, Юры Шчурко, Антон Яновіч і Хведар Шчурко - харугвы, а сп.сп.

Мікалай і Міхась Кандрусікі, ды сп-ні Марыля Яновіч, Ірына Якша, Вера Біканін, Альжбета Губчанка, Галіна Кандрусік, Лара Сайдэнгэм і Соня Рубаха іконы.

Бясьпеку ад самаходнага руху на дарозе забясьпечвала паліцыйная ахова, а вернікі, што ня здолелі йсьці пешкі, змаглі вярнуцца аўтобусам, што ехаў сьледам.

Пасьля кароткага адпачынку з дарогі айцы Касацкі й Кулакоўскі пачалі адправу вячорні й ранічні, што трывала да 7.30 г. вечара.

Айцам прыслугоўвалі сп.сп. Мікалай Кандрусік і Рыгор Яновіч.

Хорам, у якім пяялі матухна Нона Касацкая й спні Галіна Кандрусік, Лара Сайдэнгэм, Ліда Шамшурына, ды Соня Рубаха, а таксама сп.сп. Васіль Яновіч, Валеры Шадзькоў, Аўген Мілаград ды Уладзімер Калесьніковіч, кіраваў ведамы рэгент, сп. Аўген Падгайскі, што знарок прыехаў на ўрачыстасьць ажно йз Сыднэю.



Царква Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Кілкэны, П.А.

У нядзелю, 19-га верасьня г.г., а г. 9.30 раніцы айцы Касацкі й Кулакоўскі выканалі асьвячэньне новае царквы, усьлед пасьля якога пачалася Сьв. Літургія, на якой было прысутных каля 200 чалавек, у тым ліку й прадстаўнікі ўладаў, што паспрыялі пераносу царквы на новае мейсца й 20 гасьцей з парахаіі БАПЦ у Мэлбурне.

Падчас Сьв. Літургіі было прачытанае на дзьвёх мовах прынагоднае прывітаньне ад Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, а ў канцы сп. Васілю Яновічу - старшыні Парахвіяльнае Рады й сп-ні Соні Рубаха, ды сп.сп. Валераму Шадзько, Мікалаю Кандрусіку, Уладзімеру Калесьніковічу, Юльляну Кандрусіку й Уладзімеру Фролаву - сябрам Рады, былі ўручаныя ўладыкавыя падзячныя граматы за іхнюю ахвярную дзейнасьць на Божай ніве й шчырую працу на карысьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Парахвіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Кілкэны, П.А.

Пасьля Сьв. Адправаў у новапабудаванай каля царквы парахвіяльнай залі, дзякуючы кіраўніцтву й працы сп-няў Марылі Яновіч, Ірыны Якша й іншых быў зладжаны пачастунак з традыцыйнымі беларускімі стравамі, які смакавала 150 гасьцей.

Пачастунак трываў амаль да 6 г. вечара й падчас яго былі прачытаныя атрыманыя прывітаньні, у тым ліку падпісанае а. архімандрытам Аляксеям Драздоўскім і др-м Расьціславам Гарошкам ад Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ды сп-м Віталям Зайкам - старшынём Адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку.

Далей былі сказаныя прыгожыя прынагодныя прамовы, прапяяныя беларускія песьні ды ў розных іншых выявах адчувалася й віднелася вялікая радасьць з гэтае гістарычнае падзеі.

А гэтая падзея гістарычная нятолькі дзеля таго, што Парахвія займела большы за папярэдні, прыгожы царкоўны будынак, лепш пабудаваную залю, із усімі мадэрнымі выгадамі ў абодвых, ды ўпарадкаваны навакольны пляц, але яшчэ больш таму, што новае пакаленьне ейных вернікаў з гонарам вытрымала выпрабаваньне іхнае аддана сьці Праваслаўнай Веры й Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, ды гэтым здабыла сабе годнасьць і пашану роўную йз тою, на якую заслужылі іхныя бацькі й папярэднікі.

Пасьля ўрачыстасьці ўсім ейным удзельнікам было запрапанавана запісаць іхныя ўражаньні, ці пажаданьні ў памятнай кнізе.

Хоць няпрысутныя там у той так шчасны дзень, але тады й заўсёды духова злучаныя з нашымі братамі й сёстрамі ў Парахвіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Кілкэны, мы, як-бы ўпісваючы ў памятную кнігу, хочам ім падзякаваць за вялікую радасьць, што праз іхнае асягненьне адчула сэрца кожнага беларуса, пажадаць плоднае дзейнасьці ў будучыні ды ўпэўніць, што будзем няспынна маліцца за іх да нашага Збаўца Ісуса Хрыста, Найсьвятое Божае Маці й усіх Сьвятых Беларускае Зямлі.

Кансысторыя БАПЦ

**ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ**
**"ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА",**
**АДЗІНЫ ЧАСАПІС ПРЫСЬВЕЧАНЫ ІДЭІ**
**НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ!**

# ЖЫРАВА - ЛАСКІ ВЫПЛЫВА

*Жырава ласкі выплывам*
*На ўвесь сьвет забруіла,*
*Свой сьвяты як абраз там*
*Дзеўна пастушкам явіла.*

Жыровічы, ці з польскага Жыровіцы - хто сёньня ў Беларусі ня ведае праз гэтае асельле, дзе ў 1471-м годзе пастушкам на йгрушы дзівам зьявілася ікона Божае Маці й дзе да цяпер захаваліся даўні сабор ды праваслаўны манастыр.

Нажаль ніхто ня ўспамінае, што ікона зьявілася на "жыраве", або лузе, дзе пасьвіўся статак і, што толькі Жыравам, а ня йнакш нашыя людзі здаўна яго называлі ды й нам трэба гэтак рабіць.

Жыровічы-ж, ці Жыровіцы ды іншыя нянаскія назовы калісь пойдуць у няпамяць разам з чужынскаю ўладаю.



У пару майго дзяцінства й першае маладосьці да Жырава, на шырокай ад яго прасторы, сярод праваслаўных было вялікае ўмілаваньне й пашана да гэтага сьвятога мейсца.

У нашай сям'і гэтыя пачуцьці былі, мабыць, мацнейшыя, як у іншых, бо йшлі нятолькі йз спрадвечнае веры ў неадмоўную дапамогу зьяўленае там іконы Божае Маці, але й із успамінаў шчасьліва пражытых там маладых год жыцьця дзядоў і бацькоў.

Маіх дзядоў па маці, хоць і ненароджаных у Жыраве, бо баба паходзіла йз блізкіх Савічаў, а дзед ажно йз Краснага Сяла пад Ваўкавыскам, завяла туды, няйнакш як, спрыяльная Божая воля.

Дзед бо амаль яшчэ падросткам пакінуў родную хату, дзе яму прыпадала паўтара гактара зямлі, ды нейкім чынам уладзіўся на службу лясьніком у пана Пуслоўскага ў Альбартыне, што каля Слоніма.

Служачы гэнам ён сустрэў маю бабу й ажаніўся зь ёю.

Заслужыўшы неўзабаве падвышэньне на аб'ежджчыка, дзед атрымаў і лясьнічоўку ў маляўнічым кутку, што называўся Белай Крыніцай, дзе нарадзіліся й падняліся на ногі мая мама й ейны малодшы брат.

Панская служба, аднак, ня трывала доўга й пасьля колькі даволі добрых год лясьнікоўскага жыцьця дзеду давялося шукаць іншага заработку.

З Божае ласкі гэты заработак знайшоўся ў Жыраўскім манастыры, у якім дзед зайняўся сельскай гаспадаркай.

Дзе дзяды жылі ў Жыраве, ці ў манастырскіх будынках, ці ў падсусядзях ў адным зь вясковых канцоў асельля, што называюцца Стайкамі й Волькай, як і праз шмат чаго іншага, я нажаль, не папытаўся.

Усё-ж, з пачутых у нашай сям'і гутарак можна сказаць, што жыхары гэных канцоў лічылі сябе не сялянамі, а местачкоўцамі, дзеля чаго й у тварыскім жыцьці моладзі значылася імкненьне да панскасьці.

Панскасьць гэтая выяўлялася ў крамнай адзежы ды ў прывітым у школе карыстаньні расейскаю моваю, але ў сэрцах было яшчэ незамкнёнае ваконечка для беларускае сьведамасьці, якую пашыралі слухачы летніх курсаў для настаўнікаў парахвіяльных школаў, што адбываліся ў манастырскіх мурох.

Мая мама да канца жыцьця памятала, а часам і сьпявала пачутыя ад курсантак беларускія песьні.

Дзякуючы гэтаму моладзяваму тварыскаму жыцьцю сустрэў ды ажаніўся з маёй мамай і мой бацька, якога зь недалёкага сяла Сурынкі з пабожнасьці й беднасьці ягоныя бацькі хлапчуком аддалі на навуку ў жыраўскі манастыр, дзе ён і быў, ажно пакуль стаў настаўнікам.

Настаўніцкая аплата ў той час, аднак, ня была дастатковай на ўтрыманьне сям'і й бацька папрасіў, ды атрымаў прызначэньне на дзяка ў Вярэйках, што каля Ваўкавыска, куды пераехалі й дзяды, каб зайняцца гаспадаркай на дзякоўскай сялібе.

Гэтак на дзясятак год перарвалася непасрэдная лучнасьць нашае сям'і з Жыравам, бо пасьля колькі год супакою й параўнальнага дастатку ў Вярэйках, пачалася вайна й бацька быў пакліканы ў расейскае войска.

Усьлед за тым прыйшло трохгадовае бежанства ў Таганрогу, паварот на зруйнаваную Бацькаўшчыну ў тыя самыя Вярэйкі й бацькаў удзел у вайсковых намаганьнях здабыць незалежнасьць беларускае дзяржавы.

Ува ўсіх гэтых пакутах і выпрабаваньнях ніхто з нашае сям'і не пацярпеў, што тлумачылася апекай зьяўленае ў Жыраве іконы Божае Маці.

У 1921-м годзе апека Найсьвятое Дзеўны, усё-ж, адвярнулася й ад тыфу памерла мая 10-ці гадовая сястра ды ўсьлед за ёю й баба.

Мой бацька палічыў гэтыя балючыя страты за пакараньне за ягоны адыход ад службы Богу, ды не пайшоў у польскае войска, як дзе-якія ахвіцэры зь беларускіх вайсковых адзьдзелаў, а ўсьвяціўся ў сьвятара.

Першыя парахвіі ён атрымаў у Сынковічах, а пасьля ў Старых Дзявяткавічах недалёка ад Слоніма й нашая сям'я ўзноў пачала ў вялікія сьвяты наведваць Жырава.

Жыцьцё каля Слоніма ня трывала, аднак, доўга, бо хутка пасьля таго, як я нарадзіўся ў 1923-м годзе, бацька пераехаў на парахвію ў Наваельні каля Наваградка, а пасьля ў Шчару недалёка ўпаду адначменнае ракі ў Нёман, дзе 55-ці кілямэтравая далячыня была перашкодай для даезду да сьвятога мейсца.

Таму й пабачыць Жырава мне пашчасьціла адно ў 1930-м годзе, калі бацькі наважылі паехаць туды на гадавое сьвята 7-га (20-га н. ст.) травеня.

Ехаць, пэўна-ж, ня было йнакш як возам і канём, дык за два дні да сьвята, запрогшы нашую цягавітую кабылку Мышку, мы праз Курылавічы й Дзярэчын падаліся ў далёкую дарогу.

Даехаўшы ў той сам дзень да Гальнкі заначавалі там у мяйсцовага сьвятара, а назаўтра выехалі вельмі рана й, ня спыняючыся ў Слоніме, падвечар даехалі да Жырава.

У Жыраве спыніліся на начлег у даўніх знаёмых маіх бацькоў, што жылі на Вольцы.

Іхныя жанчыны ў той дзень, ажно да позьняе ночы, былі зайнятыя пячэньнем абаранкаў, пеўнікаў і маскалікаў на продаж у заўтрашні дзень.

Назаўтра, устаўшы рана, мы пайшлі у манастырскія муры, дзе бацька паказаў мне ўсё вартае ўвагі ў саборы, а таксама царкоўкі пры ім, адна зь якіх у той час была забраная пад касьцёл.

У саборы было людна, бо нямала маленьнікаў, што прыйшлі наконадні з крыжнымі йсьцяжкамі ды начавалі на засланай саломай падлозе ў левай бакоўцы, былі ўжо ўстаўшы ды загадзя займалі лепшыя мейсцы.

Тымчасам на званіцы, што цераз дарогу ад манастыра, раз за разам адзываліся званы й з сабору выходзілі прыслужнікі з харугвамі ды яраманах вітаць крыжныя йсьцяжкі, што, не пасьпеўшы дайсьці напярэдадні, адзін за адным прыходзілі раніцай.

Пасьля агляду манастыра бацька ўзяў мяне ў рызьніцу за алтаром зь левага боку, дзе духавенства, што ня брала

манархаў. Вітражны вобраз Сьв. Кадваларда захаваўся таму, што ён быў каралём!

Аднойчы мастак прачнуўся ў сярэдзіне начы адчуваючы натхненьне й настаўленьне як скончыць ікону сьвятога. Ён быў так моцна ўзрушаны гэтым перажываньнем, што адмовіўся ўзяць плату за ягоную працу!

Сьледам пайшлі іншыя іконы, асновай якіх паводле магчымасьці былі рэдкія выабразаваньні, што перажылі пратэстанцкую рэфармацыю, а калі не, дык жыцьці сьвятых: сьв. манаха Естына, сьв. ігуманьні Мэлянгеліі (цяпер вызнаванай у Грэцыі), сьв. караля Паба"- "слупа Брытаніі", сьв. Ільяна - пілігрыма, сьв. Сайбі й сьв. Сыр'ёла, што заснавалі манаскія асяродкі на абтоках ля берагоў Паўночнае Валіі.

КАНТАКТЫ. Сьв. Пакроўская Царква імкнулася сягнуць да валійскага народу рознымі спосабамі:

1. АГУЛЬНАЕ АЗНАЯМЛЕНЬНЕ ВАЛІЙЦАЎ З ПРАВАСЛАЎЕМ (ПРАВАСЛАЎНАЙ ВЕРАЙ):

а. ВЫДАВЕЦТВА. Яно было накіраванае на Валію, але сягнула шырэй ейных межаў. Апрача бо друку паштовых картках зь іконамі й на каляднія прывітаньні, ды касэты, нашая царква выдала пару брашураў, у тым ліку "Жыцьцё сьв. Нэктарыя" на валійскай мове. Ведама, ёсьць патрэба на больш выданьняў, асабліва літургічных тэкстаў, пачынаючы йзь Сьв. Літургіі Сьв. Яна Залатавуснага, якую ўжо шмат год, як кіраўнік нашае грамады пераклаў на валійскую мову.



Царква Ўсіх Валійскіх Сьвятых у Блэнаў Фэстыньёг

б. ПУБЛІЧНЫЯ ВЫСТУПЫ Й ВЕСЬЦЬНІКІ ІНФАРМАЦЫІ: Прадуктары тэлевізыйных і радыявых перадачаў няраз наведвалі нашую царкву, ды нават двойчы ўлучалі перадачы Сьв. Літургіі ў нядзельную праграму "Ранічная Служба". Акрамя гэтага а. Дэньёл часта атрымоўвае запросіны даваць інтэрвью на радыя, тэлевізыі й у газэтах. Часам гэныя інтэрвью датычаць жыцьця Праваслаўнае Царквы толькі ў Валіі, а часам царкоўных падзеяў вонках яе, асабліва ўва Усходняй Эўропе. Гэткім чынам шмат людзей у Валіі ўжо бачыла нашую царкву на тэлевізіі, або чытала артыкулы празь яе ў прэсе, што выклікае вялікую колькасьць лістоў з дадатковымі пытаньнямі. Айцец Дэньёл часта выступае з гутаркамі праз Праваслаўную Царкву перад рознымі згуртаваньнямі, царкоўнымі грамадамі, школамі й каледжамі, у выніку чаго гэтыя арганізацыі неаднойчы наведваюць нашую царкву. Падчас гэтых наведаў звычайна бываюць гутаркі праз царкву й іконы, а часам і кароткі малебен.

в. ЭКУМЭНІЧНЫЯ КАНТАКТЫ. Праваслаўная Царква ў Валіі мае статус назіраліка ў валійскім экумэнічным згуртаваньні "CYTUN"- "Цэрквы ў Валіі Разам". 26-га травеня г.г. "CYTUN", з нагоды адкрыцьця новае Валійскае Асамблеі зарганізавала ў катэдры Ляландаф, што ў Кардыфе, адумысловую адправу. Створаная ў праграме пашыранага ўраду Асамблея - першы ворган нацыянальнае ўлады, што Валія займела за апошнія 600 год, ды наагул упяршыню ў выніку дэмакратычных выбараў. Праваслаўная Царква, хоць і малая лікам у Валіі, усё-ж, была запрошаная ўзяць удзел ўва ўрачыстасьці ды злажыць дзьве малітвы на ўлучэньне ў адправу. Былі пададзеныя наступныя малітвы:

Сьвятар: Памалемся! Табе Госпаду, што нас клічаш да сьпеласьці ў Хрысьце, дзякуем за тое, што даў нам нагоду узяць адказнасьць за нашае нацыянальнае жыцьцё.

Людзі: Дзякуем Табе, Госпаду, за Тваю сталую апеку.

Сьвятар: Усьведамі нас, Госпаду, што толькі здаючыся на Цябе мы зможам займець посьпех, ды дай нам здольнасьць гэтак, як Ты яе даў вельму сьвятых, што асьвяцілі наш край, спадзявацца на Госпада Ісуса Хрыста ды ўва ўсім ад Яго залежаць.

Людзі: Валійскія сьвятыя, упрашайце Бога за нас.

Адразу гэнэральны сакратар "CYTUN" уважаў, што малітвы, так як яны напісаныя, ня могуць быць ужытыя. На гэтую засьцярогу ёсьць гістарычная прычына. Пасьля адзьдзяленьня ў 1534-м г. Англіканскае Царквы ад Рыму пратэстанцкая тэалёгія паступова стала ейнай афіцыйнай навукай.

Таму, апрача прымусовага закрыцьця манастыроў у краі былі разбураныя ўсе алтары, ды ў паймкненьні спыніць пашану сьвятых, іхныя застанкі былі зьняважаныя ды абразы забраныя з цэркваў й зьнішчаныя. Малітвы сьвятым не ўваходзяць у афіцыйную англіканскую веру й адправы, дык запрапанаваныя Праваслаўнай Царквою малітвы былі ім неўспадобу.

Аднак а. Дэньёл, цьвёрда кажучы, што калі праваслаўны ўклад быў запатрабаваны, дык трэба спадзявацца, што ён будзе праваслаўны паводле зьместу, дамогся іхнага ўлучэньня ў адправу. Пасьля крыху перамоваў і гадзінаў чаканьня праз тэлефон была атрыманая згода прыйняць малітвы як яны напісаныя.

Гэткім чынам, 26-га травеня 1999-га г., на адправе з нагоды адкрыцьця Нацыянальнае Валійскае Асамблеі праваслаўны сьвятар змовіў малітву, у якую быў улучаны зварот да Валійскіх сьвятых. Прысутныя адказалі сказам "Валійскія сьвятыя, упрашайце Бога за нас" - мабыць першы раз, як пасьля пратэстанцкае рэфармацыі сьвятыя былі закліканыя ў афіцыйнай адправе ў якой-колечы з англіканскіх катэдраў у Брытаніі. Гэта было ў прысутнасьці каралевы Альжбеты II-е, продкі якое забаранілі вызнаваньне сьвятых у нашым краі.

г. КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ - НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЭСТЫВАЛЬ (EISTEDDFOD). Галоўнай падзеяй культурнага жыцьця Валіі штогоду бывае Eisteddfod, што адбываецца на зьмену ў Паўночнай, або ў Паўдзённай Валіі. На гэтай падзеі, праз мноства узважваных выдатнымі аўтарытэтамі й знаўцамі спаборніцтваў, устанаўляюцца найвышэйшыя стандарты ўва ўсіх мастацтвах. Узнагарода на Eisteddfod - вялікае асягненьне. Амаль кожны год адзін з паэтаў атрымоўвае вянок, а другі ўзвышаецца на пасад за перамогі ў двух патрабавальных паэтычных спаборніцтвах. Перамога ў Eisteddfod адчыніла нямала каму йз спаборнікаў дарогу да міжнароднае славы.

Але апрача павільёну на галоўныя спаборніцтвы, на полі дзе Eisteddfod адбываецца ёсьць яшчэ шмат буданоў на ўсялякія культурныя паказы, традыцыйныя й сучасныя, і большасьць валійскіх арганізацыяў - культурных, рэлігійных, камэрцыйных - маюць пляцоўкі, дзе людзі могуць пазнаёміцца з гэткай арганізацыяй.

Праз апошнія дзесяць год Сьв. Пакроўская Царква тройчы ставіла на фэстывалі свой стэнд. Кожны раз ён выклікаў вялікае зацікаўленьне й сотні людзей аглядалі яго ды куплялі кнігі й іконы. Адзін год вялікую цікавасьць выклікаў паказ праваслаўнага царкоўнага жыцьця. Другі раз мы запрасілі іканаграфа Рыгора Пападжорджыю маляваць падчас выставы ікону Сьв. Мэланджэл. Валійцы яшчэ ніколі ня мелі гэткае магчымасьці пабачыць як малююцца іконы.

2. ПРАКТЫКА ПРАВАСЛАЎНАЕ ВЕРЫ Ў МЯЙСЦОВЫМ АСЯРОДЗЬДЗІ (ORTHOPRAXIS): Наш Госпад Ісус Хрыстос сказаў праз Сябе, што Ён "прыйшоў не па тое, каб Яму служылі, а па тое, каб сам служыць" (Мацьв. 20:28). Мы, праваслаўныя хрысьціяне, верым. што Царква - гэта "Хрыстовае Цела" (І Кар. 12:27), што Яна папраўдзе ёсьць Ягонай прысутнасьцяй на зямлі. Таму Царква пакліканая, каб служыць. Калі Яна ня будзе служыць, дык ня справіцца зь Ейным пакліканьнем і місыяй. Калі царкоўныя грамады служаць адно сабе, не зважаючы на патрэбы й цярпеньні тых, што вонкі, яны становяцца "закрытымі сыстэмамі", якім свома звужвацца, меншаць ды ўканцы паміраць.

Знаходзячыся ў мяйсцовым грамадзтве нашая Царква мае нагоду навучыцца, што служыць гэта прывілей да якога хрысьціяне пакліканыя і, што, служачы іншым, мы служым Хрысту: "што вы зрабілі найменшаму, тое вы зрабілі й Мне" (Мацьв. 25:4).

Захаваньне Праваслаўнае Веры адно пачатак; нам трэба памятаць, што нашая вера - вера ў Асобу - Госпада Ісуса Хрыста, Які нас любіць і Якому мы хочам адказаць любасьцяй. Сам Госпад кажа нам "калі любіце Мяне, выконвайце мае наказы (Ян, 14:15), а адзін з гэтых наказаў "любеце адзін аднаго" (Ян, 15:12).

Гэткім чынам вера вядзе нятолькі да годных паводзінаў (г.зн. маральнага жыцьця), але й да правільнае дзейнасьці (Ортапраксіс), бо праз пашырэньне нашае любасьці да Хрыста на іншых мы Яго любім ды Яму служым. Сьв. Ісаак Сырыец, ягоным вобразам кола йзь сьпіцамі, вельмі выразна выяўляе, што любасьць да Бога неразлучная зь любасьцяй да бліжняга. Сьпіцы абразуюць нашых бліжніх, а калодка Бога. Немагчыма наблізіцца да Бога не набліжаючыся да нашых суседаў, ці стаць блізкім да суседаў не набліжаючыся да Бога!

Сьв. Якуб выразна адзначае, што правільная вера й правільныя дзеі (Ортапраксіс) неразлучныя й, што нашая вера проста "незапраўдная", калі мы ня служым тым, што ў патрэбе. Ён кажа "калі брат, ці сястра блага апранутыя й патрабуюць штодзённае ежы, а хто-колечы з вас скажа ім "ідзі ў супакоі, грэйся й карміся", ня даўшы ім таго, што патрэбнае целу, што з таго за карысьць? Дык адна вера, у якой няма добрых учынкаў, мёртвая". (Як. 2:15-17).

Згодна з гэтым, ад першых дзён, нашая царква імкнулася служыць мяйсцоваму грамадзтву, асабліва тым у ім, у каго зламанае, ці няспрыяльнае жыцьцё, або хто адасоблены, ды сустракацца зь людзьмі там дзе яны жывуць. Гэта дазваляе нам знаёміцца з горам беспрацоўя, беднасьці, сямейнага няладу, адрачэньня, бяздомнасьці, панурасьці, безнадзейнасьці, роспачы й наркаманіі. Але мы ведаем, што гэта дзе нам, як хрысьціянам, прызначана быць, бо Прычасьце, сэрца жыцьця Божага Гаспадарства, заснаванае на крыві, болю, пакуце й жахлівасьці Укрыжаваньня, што адмяняюцца Ягоным зьзянным і слаўным Устаньнем з Умерлых.

ПАХОДЖАНЬНЕ. Места Блаэнаў Фэстыньёг паўстала ў XIX-м стагодзьдзі як цэнтар сланцовага капальніцтва ў глухой і гарыстай частцы Паўночнае Валіі.

Умовы працы ў капальнях былі жахлівыя. Людзі працавалі ў падземных пячорах, вісячы на абкручаных вакол іхных сьцёгнаў ланцугах. Некаторыя гінулі ў жахлівых выпадках. Шмат губляла здароўе ад сланцовага пылу, які яны, разам з дымам ўзьвярных рэчываў ўвесь час удыхалі. Плата таксама была нізкая, але гэтыя абставіны стварылі унікальную, цесна павязаную грамаду людзей з моцным характарам. Рэлігія, культура й асьвета высака цаніліся й зьбяднелыя сем'і давалі грошы на будову хрысьціянскіх цэркваў, ды на аплату за навуку таленавітае моладзі ў калэджах, каб выбіцца зь беднастнае пасткі.

ЗАНЯПАД І ПРАБЛЕМЫ: За апошнія дзесяцігодзьдзі сланцовая прамысловасьць моцна заняпала й колькасьць насельніцтва места Блэнаў Фэстыньёг зьменшала з 12,000 да 4,500.

Сёньня яно пост-індустрыяльнае "заняпалае" места з высокім узроўням беспрацоўя. Некаторыя з раней успомненых праблемаў выводзяцца з гэтага становішча. Нажаль, цяжка спадзявацца, каб цяжкая прамысловасьць, наўпадоб тае, зь якое вырасла значное места ў глухой і гарыстай ваколіцы, узноў сюды вярнулася.

Даводзіцца дапушчаць, што мы будзем бедным местам і шмат беспрацоўных, якія тут жывуць, ды іхныя сем'і могуць спадзявацца на гэткія цяжкасьці як адчуваньне пустэчы й нястачы мэты, ды самапавагі, якія родзіць беспрацоўе. Ня можа быць сумневу ў патрэбе прысутнасьці Хрысьціянскае Царквы ў гэткіх мяйсцовасьцях.

## ВАЛІЙСКАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ МІСЫЯ

У 1996-м годзе, Яго Міласьць Мітрапаліт Ізяслаў, Першагерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы стаў нашым япархіяльным япіскапам.

Перад гэтым ужо, у 1995-м годзе, Валійская Праваслаўная Місыя была зарэгістраваная пад ейным імём і Мітрапаліт Ізяслаў афіцыйна зрабіў нас місыйнай парахвіяй. Гэта для нас, як грамады, было вялікім багаслаўленьнем, ды й пасьля таго мы былі шчадроныя сталым падтрыманьнем, зразуменьнем і заахвочаньнем, што нам даваў наш Мітрапаліт.

У траўні 1996-га г. Мітрапаліт Ізяслаў затрымаўся ў нашай парахвіі на цэлы тыдзень й у нядзелю з дыяканам і сьвятарамі трох аўтакефальных праваслаўных цэркваў адправіў Сь. Літургію. Ён сустракаўся з парахвіянамі ды наведаў сьвятыя мейсцы ў Валіі.

Ягоная пропаведзь падчас Сьв. Літургіі была нятолькі заахвочаньнем, але й выклікам ды наказам нашай грамадзе. У гэтым мы маем па нашым баку традыцыю Праваслаўнае Царквы, што ў Ейнай місыйнай працы выяўляе пашану да народаў, іхнае культуры й гісторыі. Мы багаслаўлёныя, маючы япіскапа, што трымаецца гэтае традыцыі дазваленьня народам ісьці да Хрыста ў Сьвятым Праваслаўі.

НОВАЯ ЦАРКВА: У 1990-м годзе англіканская царква ў частцы Блэнаў Фэстыньёг, што называецца Манод, была зачыненая.

У 1998-м, з багаславеньня Яго Міласьці Мітрапаліта Ізяслава Валійская Праваслаўная Місыя пачала размовы ў справе куплі зачыненага царкоўнага будынку, што пасьпяхова завяршыліся 13-га студзеня 1999-га г.

Англіканская царква выявіла вялікую прыхільнасьць ды дала моцнае заахвочаньне.

АДНАЎЛЕНЬНЕ Й ПРЫСТАСАВАНЬНЕ: Структурна моцнаму царкоўнаму будынку патрэбныя новая страха, падлога, вокны й агароджа, а таксама электрычная інсталяцыя ды грэйная сыстэма.

Разам з гэтым яго трэба перарабіць на Праваслаўную Царкву. Архімандрыт Зінон, адзін з найвыдатнейшых сучасных іканаграфаў узяў на сябе абавязак намаляваць іконы - у тым ліку й шмат якіх даўніх валійскіх сьвятых.

Наш архітэкт - ведамы грэцкі архітэкт і унівэрсытэцкі выкладчык Танасіс Мігос. Цяпер нам трэба толькі назьбіраць 100,000 анг. фунтаў.

**ЦАРКВА ВАЛІЙСКІХ СЬВЯТЫХ**

У ліпені 1999-га году наш япіскап *( Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў - рэд.)* запрапанаваў, каб нашую новую царкву назваць імём "Усіх Валійскіх Сьвятых". Нам здаецца, што прапанова нашага япіскапа, які стала заахвочваў і падбадзёрваў нашую царкву да ейнае місыі ды выявіў вялікую чуткасьць і сьведамасьць нашае сытуацыі, была натхненнай.

Найлепш аб гэтай чуткасьці сьветчаць ягоныя словы: "Няхай жыцьці ўсіх Валійскіх Сьвятых зьвяюць вашай парахвіі бясконцым прыкладам хрысьціянскае пабожнасьці, любасьці, пакоры й місыйнага духу. Вашая парахвія мае вялікую магчымасьць узноў пашырыць Сьвятую Праваслаўную Веру ў Вашым краі. Няхай-жа Вашая парахвія будзе сьветачам Праваслаўя ўсяму Валійскаму народу ды няхай любасьць нашага Збаўца расьцьвітае ў сэрцах Вашых людзей".

НАВОШТА НОВАЯ ЦАРКВА: Новая царква пабудаваная ў ідэальным мейсцы й ейная вялічыня адпаведная, каб стаць прыкметным праваслаўным царкоўным будынкам у Блэнаў Фэстыньёг.

1. Яна дасьць мейсца Праваслаўнай грамадзе Паўночнае Валіі узмацнець, пасталець і здабыць дазнаньне ў слугаваньні, ды узрасьці духова.

2. Яна можа быць даступным і прыкметным будынкам, дзе ахвочыя змогуць пабачыць праваслаўную царкву й пачуць ейныя адправы, ды пазнаёміцца з Праваслаўнай Верай.

3. Яна можа быць добрай базай на стварэньне веды праз веру й жыцьці мноства Валійскіх Сьвятых, якія дастварылі названыя іхнымі йменамі асельлі - месты й сёлы - што ўсе разам сталі Валійскім Краям і народам.

4. Яна можа спрычыніцца да злучэньня Валійскага народу зь ягонымі духовымі каранямі, што ўвасобленыя ўва мностве сьвятых мужоў і жанок, якія ўсьвяцілі іхны край.

5. Яна дасьць магчымасьць людзям іншых нацыянальнасьцяў пазнаёміцца з Валійскімі Сьвятымі.

ВАШАЯ АХВЯРА ПАМОЖА:

- Ухарашыць частку Блэнаў Фэстыньёг праз аднаўленьне гожага будынку.
- Стварыць духовую "аазу" прыгаства й малітвы.
- Паставіць новы духовы дом для праваслаўнае грамады ў Паўночнай Валіі.
- Займець базу для пастырскае дзейнасьці Праваслаўнае Царквы.
- Адчыніць царкву там, дзе наведвальнікі змогуць пазнаёміцца з праваслаўнымі адправамі.
- Стварыць асяродак, да якога змогуць прыходзіць прашане, каб ушанаваць усіх Валійскіх Сьвятых ды прасіць іхнага заступніцтва.
- Пашырыць сьведамасьць амаль забытае духовае спадчыны ў асобах даўніх Валійскіх Сьвятых ды іхных жыцьцях.
- Адсьвяткаваць 2-хтысячагодзьдзе Хрыстовага Нараджэньня вярнуўшы асьвячанае мейсца да ягонага належнага прызначэньня на ўслаўленьне Ягонага Імя.

Ігумен Дэньёл

*Ад рэдакцыі: Чытачы, што, пазнаёміўшыся йз словамі а. ігумена Дэньёла, зажадаюць падтрымаць ягоную дзейнасьць, просім пасылаць ахвяры на адрыс:*

Orthodox Church of the Holy Protection
11, Heol Manod,
Blaenau Ffestiniog, Gwynedd LL41 4DE England

## ХРОСТ ЗЕМЛЯЎ УСХОДНІХ СЛАВЯНАЎ І БЕЛАРУСЬ

У пору летапіснага хросту земляў усходніх славянаў напрыканцы X-га стагодзьдзя ў фэадальна-пляменны канглямэрат, пазьней названы "Кіяўская Русь", увахodзілі й плямёны, што жылі на беларускай этнічнай тэрыторыі.

Але напачатку назовы "Русь" і "Руская зямля" ня былі тоесныя, і кардынальна адрозьніваліся ад гэткага-ж назову ў пазьнейшыя часы. Русяй напачатку называліся дружыны першых усходнеславянскіх князёў (IX-е - першая палова X-га ст.), што пераважна складаліся з нарманаў (варагаў у летапісах). Праз гэтыя дружыны назоў Русь быў пашыраны на тэрыторыю, падуладную іхным князям. Яна стала звацца Рускай зямлёю, а ейнае насельніцтва - рускія людзі. Першпачаткова Руская зямля ўлучала ў сябе тэрыторыю плямёнаў Палянаў і Севярцаў, пазьней Кіяўскага, Чарнігаўскага й Пераяслаўскага княстваў. Сучасныя беларускія землі знаходзіліся паза межамі гэтае тэрыторыі.

Узвышэньне Кіяўскага княства ў часы князя Ўладзіміра Сьвятаславіча й часовае падпарадкаваньне часткі земляў усходніх славянаў ягонай уладзе стала гістарычным фонам прыйма хрысьціянства ў канцы X-га ст.

Матывам было імкненьне займець манатэістычнае веравызнаньне, што адпавядала-б ідэі кансалідацыі княскае ўлады й цэнтралізацыі дзяржаўнага ладу ўсходніх славянаў. Выбар Бізантыйскага, усходняга хрысьціянства быў абумоўлены існаваньнем у пару хросту Русі пэўнае колькасьці хрысьціянаў у землях Уладзіміра, дзейнасьцяй грэцкіх місыянэраў і блізкасьцяй тэрыторыяў пад грэцкім кіраваньнем. Найбольш значнаю прычынаю традыцыйна лічыцца імкненьне Рурыкавічаў далучыцца да цывілізаванага сьвету праз прыймо веры й парадненьне праз дынастычныя шлюбы з адной з найбольш славутых ды ўплывовых дзяржаваў тагачаснага сьвету, Рамейскай імпэрыяй, або Бізантыяй, што суседзіла з Русяй.

Дата хросту самога князя Ўладзіміра (988 г.) традыцыйна лічыцца датай хросту Русі ((988-989 г.г.), але апошнія досьледы гісторыкаў дапушчаюць, што хутчэй за ўсё хрост кіяўлянаў, зь якога пачаўся хрост Русі, адбыўся ў другой палове 990 г.

Прыймо хрысьціянства ўвяло ўсходніх славянаў у арбіту эўрапэйскае цывілізацыі, дало пачатак іхнай пісанай гісторыі, пісьмовасьці й літаратуры. Пачуцьцё мэты існаваньня кансалідавала ў этнас зь лінейнай, а не цыклічнай гісторыяй, падняло да культурнага ўзроўню, сумяшчальнага з гэткім-жа, як у суседзяў з хрысьціянскае Эўропы. У сэньсе тэалягічным - дало падставы для Вечнага Жыцьця.

Сымптаматычна, што сёньня вядучыя дасьледчыкі гісторыі Русі ўжываюць для таго пэрыяду назоў "Першпачаткавая Русь", падкрэсьліваючы роўнасьць усіх частак усходняга славянства ў супрацьвагу расейскацэнтрычнаму назову "Кіяўская Русь", што меў на ўвазе існаваньне цэнтралізаванае, адзінае дзяржавы ўсходніх славянаў, пераемніцай якое быццам была Масковія, а пасьля Расейская імпэрыя.

На самой справе дасьледчыкі зыходзяцца на тым, што канглямэрат мяйсцовых княжых уладаньняў увесь час знаходзіўся ў стане трансфармацыі, зь перавагай то аднаго, то саюзу іншых княстваў, і гэты канглямэрат, павязаны падабенствам мовы, звычаяў і рэлігіі, тым ня менш ніколі ня быў адзінай дзяржавай.

Нават пісьмовая царкоўнаславяншчына розьнілася ад абшару да абшару, царкоўныя абрады мелі мяйсцовыя варыяцыі, а сьвецкія ўлады з дапамогаю рэлігійных

дзеячаў імкнуліся кананізаваць мяйсцовых сьвятых і стварыць свае япіскапствы, каб давесьці сваё права на адасобнасьць і незалежнасьць ад іншых частак усходнеславянскага канглямэрату.

Вышэй згаданыя тэндэнцыі зырка відаць на прыкладах першых дзяржаўных утварэньняў на беларускіх землях - Полацкага, а пазьней Смаленскага ды Турава-Пінскага княстваў.

Пашырэньне хрысьціянства на ўсходнеславянскіх землях у першыя гады пасьля хросту Кіява йшло даволі марудна, улічваючы тое, што першымі хрысьціліся асобы набліжаныя да княскага двара, а таксама тое, што раптоўная зьмена веры князям Уладзімірам Сьвятаславічам была незразумелая паганскім рэлігійным дзеячам, якія, бязумоўна, мелі значны ўплыў на масы насельніцтва й ачолілі супраціў хрысьціянізацыі, празь які існуе шэраг узгадак у летапісах і народных пераказах.

Існуюць дзе-якія зьвесткі аб пашырэньні хрысьціянства ў Полацкай і Тураўскай землях. Прыйняўшы хрост і ўзяўшы ў жонкі сястру бізантыйскага імпэратара, Уладзімір, імкнучыся пазбыцца ягоных шматлікіх шлюбных повязяў, прапанаваў Рагнедзе, апальнай жонцы, узяць шлюб зь кімсьці зь ягоных дастойнікаў. Рагнеда адмовілася йз словамі: "Бьўшы княгіняю, ці магу я быць рабыняю ў твайго слугі". Пазьней яна прыйняла хрысьціянства, і пад імём Анастасьсі стала манашкай у адумыслова збудаваным у Полацку манастыры. Пашырэньню хрысьціянства ў Полацкім княстве спрыяў Рагнедзін сын князь Ізяслаў.

На крывавыя падзеі, павязаныя з хрышчэньнем Тураўскае зямлі, паказвае паданьне праз камнявыя крыжы, што быццам прыплылі па вадзе зь Кіява і рака пачырванела ад людзкое крыві. Пэўна, што Уладзімір Сьвятаслaвіч карыстаў з распаўсюджваньня хрысьціянства на ўмацаваньне ягонае ўлады на ўсходнеславянскіх землях, і шмат дзе новая вера ўспрыймалася як праява накінутае чужое ўлады ды выклікала супраціў.

Тым ня менш пашырэньне хрысьціянства працягвалася, паганскі пантэон багоў быў заменены хрысьціянскімі сьвятымі, на мейсцах капішчаў узводзіліся цэрквы, сьвятары заступілі валхвоў. У выніку ўзаемадзеяньня паганства й хрысьціяства стварыўся рэлігійны сынкрэтызм сярод масаў насельніцтва, асабліва сялянаў, і ягоныя рысы сягаюць ажно ў XX-е ст.

Усходнія славяне атрымалі хрысьціянскую традыцыю ў бізантыйскім, усходнім вырыянце. Засваеньне гэтае традыцыі асабліва паўплывала на разьвіцьцё манаскага аскетызму, храмавай архітэктуры й мастацтва абразоў. Дзяржаўныя структуры пазычылі тэакратычныя аргуманты ды ідэю сьвятаснай імпэрыі, што пазьней актыўна была ўжытая маскоўцамі-расейцамі. Рымская палітыка-юрыдычная традыцыя й тэалёгія ў межах гэтае традыцыі былі амаль не заўважаныя і не запатрабаваныя. Падвалінамі ўсходнеславянскае праваслаўнае традыцыі стала перш за ўсё грэцкая патрыстыка, але нястача засваеньня традыцыі клясычнае антычнасьці, перш за ўсё філязофіі Платона й Арыстоталя, спрычынілася да выразнага ўхілу ў бок гамілетыкі й агіяграфіі.

Царкоўная арганізацыя й ейныя структуры ў першым дзесяцігодзьдзі хрысьціянства на ўсходнеславянскіх землях апісаныя вельмі цьмяна ў тагачасных пісьмовых помніках, што дайшлі да нашых дзён. Каля 991 г. былі заснаваныя япіскапскія пасады й епархіі ў асноўных пляменных княжаньнях і ўдзельных княствах, агулам каля пятнаццаці, сярод іх Полацкая й Тураўская.

Каля 1037 г. узьнікла Кіяўская мітраполія, першым мітрапалітам у якой быў або грэк, або баўгар, як і япіскапы ў япархіях. Няведама, ці Кіяўская мітраполія напачатку была непасрэдна ў канстантынопальскай юрысдыкцыі, ці праз баўгарскае пасярэдніцтва. Пастаўленьне ў 1051-м г. на мітраполію Іларыёна, з роду "русіна", адумыслова згаданае ў летапісе як значная падзея.

Між тым мітрапаліт-замежнік лічыўся больш незалежным ад мяйсцовае княскае ўлады, і гэта было карыснае сьвятарству, якое імкнулася захаваць ягонае упрывілеяванае становішча й асобны суд, што быў у руках вышэйшага герарха.

Разам з тым, праз асэнсаваньне роўнасьці праз Хрыста на ўсходнеславянскіх землях пачалі ўзыходзіць першыя парасткі нацыянальнае сьведамасьці, што адлюстравалася ў такім выдатным творы царкоўнае літаратуры, як "Слова праз закон і спогадзь", што традыцыйна прыпісваецца мітрапаліту Іларыёну.

Збудаваньне да 1066 г. сабору Сьв. Сафіі ў Полацку сьветчыць празь веліч і моц Полацкага княства пары Усяслава Чарадзея. Няма сумлеву, што князь глядзеў на будаўніцтва сабору на ўзор Агія Сафіі ў Канстантынопалі як на сымбаль ягонага статусу й праяву роўнасьці зь кіяўскім князям. І бадай кожны князь імкнуўся праз заснаваньне ў ягонай дамэне япіскапскага пасаду й праз царкоўнае будаўніцтва узьняць прэстыж ягонае ўлады й ягонае зямлі, хоць усяго тры саборы на ўсходнеславянскіх землях насілі ймя Сьв. Сафіі.

Прыймо хрысьціянства ад Бізантыі назаўсёды, хоць і па рознаму, вызначыла лёсы ўсходняга славянства.

Увёўшы разуменьні адзінага Бога, любові да бліжняга, збаўленьня й вечнага жыцьця, хрысьціянства дало моцны штуршок мабілізацыі жыцьцёвых сілаў грамадзтва, вызначыла арыянтыры для асобы ў жыцьці й у людзкой супольнасьці, а для грамадзтва - арыянтыры ў гісторыі.

Ліквідуючы шматлікія звычаі паганства, улучна з кроўнаю помстай, палігаміяй і пакланеньнем баганам, хрысьціянства давала падставы для больш адказнага і больш маральнага жыцьця.

Пісьменнасьць радыкальна зьмяніла профілі грамадзтва, дала магчымасьць ствараць духовыя каштоўнасьці для ўжытку як свайго, так і наступных пакаленьняў.

Літаратура, архітэктура, мастацтва й рамёствы, што прыйшлі разам з хрысьціянствам, далі поле дзейнасьці й сродак выяўленьня творчых сілаў ды стваральнае энэргіі народу. Праз кнігі распаўсюджвалася Божае слова, апокрыфы, творы Айцоў Царквы, агіяграфія, а таксама сьвецкая літаратура ў выглядзе "Фізыёлагаў", "Шастадневу", "Хрысьціянскае тапаграфіі" Казьмы Індакаплеўта, гістарыяграфічная літаратура - "Палея", "Хронікі", "Хранографы", зборнікі "Пчала", бэлетрыстыка як раман "Александрыя", "Аповесьць праз Траянскую вайну", "Дэўгенавыя дзеі", "Варлам і Ясаф".

Хрысьціянства зрабілася неаднятнай часткай духовага жыцьця Беларусі, ейнае гісторыі й культуры, ды ейнай надзеяй на лепшую будучыню.

В. Зайка

***

*Ад рэдакцыі: Цікавы артыкул сп. В. Зайка выклікае, аднак, пытаньне, ці згоднае з праўдай гуртаваньне продкаў сучаных беларусаў, украінцаў і расейцаў у адну загараду пад назовам усходніх славянаў.*

*Розьніцы ў пары засяленьня займаных імі тэрыторыяў, пляменнай блізкасьці, часе зьліцьця ў асобныя этнасы ды субстраце гэтых этнасаў, паказваюць на патрэбу ўводзінаў у гэаграфічны падзел яшчэ аднае групы, а гэта сярэдняга славянства, у якую ўваходзілі-б беларусы й украінцы, пакідаючы расейцаў ува ўсходняй.*

*Бяручы-ж на ўвагу розьніцы й паміж украінцамі ды беларусамі, ці ня было-б яшчэ больш згодным з праўдаю называць беларусаў паўночнымі, украінцаў паўдзённымі, а называных цяпер паўдзённымі - балканскімі, ці задунайскімі славянамі?*

## КУДЫ ЙДЗЕМ?

Набліжэньне наступнага тысячагодзьдзя, больш за іншыя значныя даты, патрабуе ад адзінкі, ці грамадзтва, акінуўшы вокам мінулае, падзівіцца на сучасны стан справаў ды выбраць далейшы шлях уперад.

Пакідаючы выбар гэткага шляху адзінкамі вонках абсягу сёньняшняе гутаркі, трэба сказаць, што неабходнасьць агляду нашых агульнанацыянальных справаў даўно насьпела й далейшая няўвага да яе, ці пярэчаньне ейнае наяўнасьці будзе згубным нятолькі для посьпеху дзяржаўнага будаўніцтва, але й існаваньня народу.

Нажаль, бо, пасьля больш як сто год таго, што ў нас называецца адраджэньнем, стан нашае нацыянальнае справы, замест лепшаць, нагэтулькі благі, што й горшаць яму, апрача сьмерці, няма куды.

Проста-ж і адкрыта кажучы. бяда ў тым, што ўсё менш і менш хто хоча быць беларусам, а калі й не адракаецца, дык гэты назоў ня мае для яго ніякага патрыятычнага значаньня.

Нацыянальны актыў звык тлумачыць гэтую бяду як вынік варожае акупацыі, ў чым ёсьць немалая частка праўды, але ніякі іншы народ, што быў пад чужым займом, ня імкнуў гэтак ахвоча адрачыся ад ягонае апрычонасьці ды як-найхутчэй "інтэгравацца" з захопнікамі, як гэта робім мы.

Адсюль няцяжка дайсьці да большае часткі гэтае праўды, а яна ў тым, што "інтэграцыйнае" імкненьне пасеянае ў народнай сьведамасьці самымі пачынальнікамі нашага адраджэньня ад ягонага пачатку праз адрачэньне ад даўняга нацыянальнага назову "Літва", "ліцьвін" ды прыймо накінутае займітамі мянушкі.

Прыймо-ж вываднае йз суседзкага ймя мянушкі абярнула нацыянальнае адраджэньне, няўцям ягоным пачынальнікам і пасьлядоўнікам, у будову новае нацыі, на што ў канцы XIX-га й у XX-м ст. запозна.

Гэтага прыйма, хоць ён і згубіў гістарычную памяць, не зрабіў, аднак, увесь народ і пачаў "галасаваць" супраць зьмены, як кажуць, "нагамі", г.зн. адракацца ад накіданага на яго "меншбрацкага" ймя.

У гэным пярэхрысьцьве мы сьпярша страцілі панскі й шляхоцкі пласт народу, што, ня гледзячы, на ягонае эблажэньне, адзін быў гатовы да дзяржаўнага будаўніцтва, што й паказаў, шчодра далажыўшыся да пасьпеху польскага ды лятувіскага вызвольнага змаганьня.

Засталая-ж сялянская маса, бо колькасна значнога мяшчанства ў нас ня было, пакуль назоў "беларус" меў пратэстацыйнае супраць сацыяльнае несправядлівасьці значаньне, хоць і не ганарылася, але ня маючы, апрача "тутэйшасьці" іншага выбару, моўкна згаджалася на яго й нават давала кволы прыцёк адраджэнскіх сілаў.

Становішча, аднак, зьмянілася, калі сялянства пачало зыходзіць зь гістарычнае сцэны, а ягоныя дзеці, здабыўшы асьвету ў чужынскіх школах, павыходзілі ў сьвет інтэлігэнтамі, або, інакш кажучы, мадэрнымі панамі й шляхтай.

У гэтым перараджэньні яны ня мелі, нажаль, імунітэту выразна рознага ад іншых народаў ды слаўнага нацыянальнага ймя, а таму й расьлі з пачуцьцём меншвартаснасьці, зь якога, узноў-жа, выводзілася імкненьне далучыцца да, быццам вышэйшых, суседніх народаў.

У гэтай бядзе, нажаль. мала паможныя спробы адраджэнцаў павязаць слаўную мінуласьць нашае былое дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, з нашай сучаснасьцяй, бо з адной толькі Пагоняй, бяз супольнага з гэнай мінуласьцяй імя, іх адразу, бяз цэлага курсу навукі, цяжка ўзяць на веру, ды й пасьля, усёроўна, няма пачуцьця гонару.

Затое пашыраны займітамі хвальш, што мы ніякае гісторыі й дзяржавы бяз ласкі гэтых займітаў ня мелі, бяз нашых навочных й лёгка разуметных повязяў з гэтай спадчынай, вельмі пераконны й чэпкі.

У ваблічча гэткае запраўднасьці было-б шкодна не крануць упорыста замоўчванае ў нас пытаньне, ці йсьці нам далей шляхам стварэньня новае нацыі, ці зрабіць папраўку курсу й вярнуць сабе гістарычнае ймя "ліцьвіны", ды ўзяцца за адбудову нашае даўняе й слаўнае дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага.

Нажаль на выказьнікаў думкі адбудовы Вялікага Княства Літоўскага ў нас пагляд, як на прыдурэлых, хоць адзіны аргумэнт усупраць яе, толькі тое, што ўсю спадчыну гэтае слаўнае дзяржавы, улучна з нашым імём, ужо прысабечылі жамойты.

Але-ж, маючы гістарычную праўду за сьветку, мы ня можам адракацца ад нашае тоеснасьці й нашае мінуласьці толькі таму, што нехта іншы ўпадабаў яе апранаць, ды гэта, як і пагляды ўсіх нашых суседзяў, што пярэчаць нашаму існаваньню, іхная справа.

Горшай тут перашкодай нашае ўяўленьне, што жамойты запраўды забралі нашае ймя, але-ж "Летува" ня гучыць як "Літва" ды "летувіс" ня тое самае, што "ліцьвін", а ў замежных мовах, калі нават спачатку й ня "Lithuania" а "Litva", дык, усё-ж, ляпей за "Weissrussland", ці "Whiteruthenia".

Дык прычынай нашае затрымкі ў гістарычным сьляпым кліне не запраўдныя перашкоды, а нашае ўяўленьне іхнае наяўнасьці ды спалох перад гэтым пудалам.

Што-ж тады рабіць, каб нам з гэтага сьляпога кліна выйсьці на шлях запраўднага адраджэньня?

Адказ на гэтае пытаньне ня вымагае вялікае мудрасьці, бо, пэўна-ж, трэба перастаць займацца тым, што не дае вынікаў ды пачаць працу на ўзнаўленьне нашае даўняе нацыянальнае сьведамасьці й адбудову дзяржаўнае спадчыны Вялікага Княства Літоўскага.

Перад тым, аднак, трэба знайсьці ахвоту й адвагу ўголас перад народам прызнацца ды растлумачыць яму, што была зробленая згубная гістарычная памылка.

На гэткае прызнаньне, нажаль, цяжка спадзявацца ад дзейнікаў нашага дасюлешняга няплоднага адраджэньня, бо на яго страчана нямала творчага высілку ды прызнаньне было-б пагрозай аўтарытэту гэтых дзейнікаў.

Нельга, аднак, і дапусьціць, каб гэтая жыцьцёвае вагі справа заставалася адно ў моладзявых лятуценьнях.

Таму на нашае нацыянальнае збаўленьне патрэбная партыя, або рух, што паставіць на чале праграмы дзейнасьці адбудову Вялікага Княства Літоўскага, завяршэньнем якое будзе парлямэнтарная пастанова аб узнаўленьні даўняга нацыянальнага й дзяржаўнага ймя, ды ўхвала чацьвертага Літоўскага Статуту.

На асягненьне гэтае мэты, аднак, мала надзеі без аднаго яшчэ складніка нацыянальнае сьведамасьці, а гэта пачуцьця рэлігійна-царкоўнае апрычонасьці, бо прыклады вызваленьня паняволеных народаў паказваюць на ягоную вырашальную ролю ў гэтай справе.

Найбольш зыркімі довадамі на гэта, пэўна-ж, могуць быць пасьпяховыя вызвольныя змаганьні палякаў і ірыйцаў, ды стварэньне ізраільскае дзяржавы, але й у іншых народаў, што здабылі сабе незалежнасьць, мяйсцовая рэлігійная супольнасьць й ейная рознасьць ад займіцкае веры ў вялікай меры былі крыніцай сілы на супраціў няволі й на асягненьне свабоды.

Затое, дзе гэтага пачуцьця рэлігійнае супольнасьці й рознасьці ад акупантаў, як у беларусаў і украінцаў, ня было, змаганьне за незалежнасьць не давала вынікаў.

Час і паправа ранейшых памылак зрабілі паважную зьмену гэтае сытуацыі ў украінцаў і, хоць яны яшчэ не асягнулі пачуцьця рэлігійнае супольнасьці ўва усім народзе, існаваньне й разьвіцьцё ў краі аўтакефальнае праваслаўнае царквы, ды нацыянальна акрэсьленае вуні-

яцкае, даюць добры задатак на асягненьне гэтае мэты, а можа й заруку дзяржаўнае незалежнасьці.

Бязь меры горш гэтая справа ў нас - беларусаў, бо наш народ падзелены верай і царкоўнымі абрадамі на дзьве чужыя роднаму краю часткі, кантроль над якімі застаецца ў замежных руках.

Да гэтага даўняга падзелу апошня даходзіць яшчэ й сэктанцкі адшчэп, што абыякавы, або й варожы да нашых нацыянальных імкненьняў.

З гэтых імкненьнямі, аднак, нельга ўжо ня лічыцца й замежныя царкоўныя ўлады пачалі зварочваць на іх увагу, ды прабаваць выкарыстаць на іхныя, не абавязкава прыязныя нам, мэты.

Небясьпекі рэлігійнае абыякавасьці, з аднаго боку, або рэлігійнае вернасьці замежным царкоўным дзейнікам, з другога, ня бачаць, нажаль, кіраўнікі й актыў ніводнае з адраджэнскіх плыняў.

Сярод іх пануе, або перакананьне, што рэлігія й царква наагул нічога супольнага з нацыянальным адраджэньнем ня маюць, або ўпэўненасьць, што належную ёй ролю ў гэтым адраджэньні ролю рэлігія займее толькі тады, калі наш Народ увесь перахрысьціцца ў вуніяцкую, або й каталіцкую веру.

Гэтага-ж заводу, ды іншае масьці думкі трымаюцца й спадзявальнікі, што Беларускі Экзархат РПЦ зробіць нешта карыснае для нашага адраджэньня, або нават абернецца ў нацыянальную царкву.

Адныя й другія трапляюць у прыгатаваныя для іх ды на ружова памаляваныя лятуценныя катухі, а замежныя царкоўныя кіраўніцтвы працягваюць іхную адвечную асымілятарскую працу.

Горш яшчэ тое, што злучэньне вуніяцкага актывізму з нацыянальным дае аргумэнт тым, якія цьвердзяць, што нашая вызвольная справа нічога іншага, як ватыканская, або польская інтрыга, а праэкзархатны актывізм стварае ўражаньне, што Праваслаўе, зь ягонае натуры, варожае да нашых нацыянальных імкненьняў.

У запраўднасьці-ж, аднак, найлепшым довадам увагі Праваслаўя да нацыянальных імкненьняў ёсьць існаваньне 15-ці кананічна вызнаных ды некалькі яшчэ нявызнаных аўтакефальных, або краёвых Цэркваў.

Нікому, апрача нашага адраджэнскага кіраўніцтва й актыву, не сакрэт, што існуе й Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква й Яна паводле Ейнае навукі й дзейнасьці патрыятычная, ды кіруюць Ёю й моляцца ў Ёй з роду й перакананьняў запраўдныя беларусы.

Бяручы на ўвагу, што паводле апошніх апытаньняў 72% насельніцтва Беларусі лічыць сябе праваслаўным, якраз з гэтай Царквою ўпоруч ды падтрымліваючы Яе трэба было-б ісьці беларускаму адраджэнскаму руху.

Ня было-б з гэтага крыўды іншым веравызнаньням, бо кожнаму зразумела, што не зьвяртаць увагі на веру большасьці народу неразумна, а Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ня імкнецца перахрышчваць тых, што йнакш моляцца, але хоча служыць ім прыкладам службы Народу.

Таму ў праграмах нашых палітычных партыяў ды на мэце нацыянальнага адраджэньня побач з узнаўленьнем даўняе дзяржаўнасьці, або дакладней кажучы Вялікага Княства Літоўскага, павінна быць і ўзнаўленьне Беларускае, ці, гістарычна бяручы, Літоўскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Нажаль, дзеля заангажаванасьці немалое колькасьці адраджэнскіх кіраўнікоў і актыву ў місыянэрскай дзейнасьці замежных рэлігійных цэнтраў, спадзявацца на гэта цяжка.

Застаецца толькі прасіць Бога, каб памог нам стварыць нашую ліцьвінскую праваслаўную "Салідарнасьць" ды паслаў нам нашага Валэнсу.

Б. Сурынец

## ДЫЯКАНСКАЕ ЎСЬВЯЧЭНЬНЕ

У нядзелю, 14-га лістапада г.г. Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў перад Сьв. Літургіяй у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ўзьвёў у ступень чытара, а затым паддыякана, ды падчас Сьв. Літургіі ўсьвяціў у годнасьць дыякана Ігара Якуніна.

А. Ігар Якунін скончыў у 1995-м годзе тры курсы Жыраўскае Духоўнае Сэмінарыі, пасьля чаго далучыўшыся да руху за ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, быў выконным дырэктарам Беларускага Хрысьціянскага Згуртаваньня імя. Сьв. Сафіі Слуцкае.

Цяпер а. Ігар Якунін прызначаны да кліру Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага й мае намер, як толькі дазволяць магчымасьці, скончыць ягоную багаведную асьвету.

Пасьля Сьв. Літургіі парахвіяльнае сястрыцтва зладзіла ў гонар новаўсьвячанага а. дыякана Ігара Якуніна пачастунак, на якім некалькі прамоўцаў віталі яго з адказнай годнасьцяй і жадалі плоднае працы на Божай ніве, ды карыснае Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве й Беларускаму Народу службы.

Да гэтых прывітаньняў ды пажаданьняў далучаемся й мы, кажучы: Аксіос! Дай Божа шмат год!

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ Ў БРУКЛІНЕ

У нядзелю, 5-га сьнежня г.г., з нагоды 79-х угодкаў Слуцкага Змаганьня, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў у суслужэньні з а. архімандрытам Аляксеям і а. дыяканам Ігарам адправіў пасьля Сьв. Літургіі ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне паніхіду за супакой душаў загінулых у 1920-м годзе на Случчыне й у іншыя поры змагарах за незалежнасьць Бацькаўшчыны ды аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Пасьля адправы ў парахвіяльнай залі адбыўся прынагодны сьвяточны сход, на якім слова аб Слуцкім Змаганьні сказаў сп. Юры Васілеўскі.

Усьлед, апрача выказанага ім прывітаньня сходу ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня старшыня ягонае Галоўнае Управы сп. Антон Шукелойць падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі аб пачатку й разьвіцьці традыцыі сьвяткаваньня Слуцкіх угодкаў.

У канцэртнай частцы ўрачыстасьці выступіў узнагароджаны грэнд-прызам Нацыянальнага Фэстывалю Беларускае Песьні й Паэзіі "Менск 95" ды дыплёмам "Славянскага Базару 95" малады сьпявак Ален, што пад собскі акампаніямэнт на гітары й у суправаджэньні на баяне сп. Міхася Абраменка выканаў рад створаных ім песьняў.

Напісаныя ў папулярным цяпер на Бацькаўшчыне мадэрным музычным стылі ягоныя песьні прыйшлі прысутным на ўрачыстасьці даспадобы, аб чым сьветчылі нятолькі іхныя шчодрыя воплескі, але пазьней і чарга купляць касэты з запісам гэтых песьняў.

Сьвяткаваньне, як пачалося, гэтак і скончылася архіпастырскім заклікам Божага прыяньня ўдзельнікам, а таксама прапяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Ахвочыя купіць касэты з Аленавымі песьнямі могуць гэта зрабіць кожнае нядзелі пасьля адправаў у Катэдральным Сабры Сьв. Кірылы Тураўскага.

## БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

Зь ініцыятывы асацыяцыі палепшаньня раёну места, дзе знаходзіцца Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, у нядзелю 27-га лютага 2000-га г., плянуецца зладзіць у парахвіяльнай залі Беларускі Фэстываль, што пакажа амэрыканцам беларускую гісторыю й культуру.

Просім беларускае грамадзтва падтрымаць гэтую карысную для нашае Справы імпрэзу.

## 50-Я ЎГОДКІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ

У нядзелю, 10-га кастрычніка г.г. Адэьдзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку, адзінае дзейнае тут беларускае грамадзкае арганізацыі, ладзіў у залі Украінскага Народнага Дому ў Мангатане сьвяткаваньне 50-х угодкаў ягонага заснаваньня.

Афіцыйная частка праграмы была пачатая прывітаньнем прысутных старшынём адзьдзелу сп. Віталям Зайкам, усьлед за якім, пасьля амэрыканскага нацыянальнага гімну, прынагодныя словы сказалі старшыня Прэзыдыюму Рады БНР сп-ня Івонка Сурвіла й старшыня Галоўнае Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць ды былі прачытаныя прывітаньні з Бацькаўшчыны.

Слова на тэму дня сказаў др. Вітаўт Кіпель.

Далей былі даручаныя падзячныя граматы былым старшыням Ньюёркскага Адзьдзелу й Галоўнае Управы ды хвілінай цішыні ўшанаваная памяць спачылых сяброў.

У мастацкай частцы сп-ня Ліда Кано пры акампаніяманьце сп-ні Таццяны Дзямешчык выдатна прапяяла дзьве беларускія песьні ды дачушка сп-ва Таццяны й Сяргея Капыткаў Ксеня гожанька сказала напісаны татам верш.

Заканчэньнем мастацкае часткі быў зарганізаваны сп-нямі Верай Бартуль, Алай Орса-Рамана й Валянтынай Якімовіч паказ жаночага й мужчынскага народнага адзеньня з розных ваколіцаў Беларусі, якімі радавалі вочы прысутных апранутыя ў іх 20 параў моладзі й ахвотнікаў сталейшага веку.

Перад паказам сп-ня Бартуль дала дэтадёвыя высьненьні да паказаных строяў.

Падчас абедзьвех частак праграмы прысутных цешыў ягонымі сьпевамі й музыкай сп. Зьміцер Яўтуховіч.

Урачыстасьць, якую вялі сп-ня Ала Кузьміцкая й др. Янка Запруднік, закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Усьлед пачаліся танцы, да якіх граў і сьпяваў сп. Аляксандар Балотнік.

Сярод голаду на кожную праяву беларускае спадчыны й жыцьця сьвяткаваньне было радасная падзеяй, тым больш яшчэ, што прысутнай на ёй і адказнай за ейнае зладжаньне была ў вялікай большасьці новая эміграцыя.

Было на ім, нажаль, і такое, без заўвагі аб чым няма як абыйсьціся.

У Амэрыцы ёсьць звычай пачынаць урачыстыя публічныя сходы малітваю, якую найчасьцей прамаўляе запрошаны мясцовы духаўнік веравызнаньня да якога належаць удзельнікі.

Захоўваюць гэты звычай і адзьделы БАЗА вонках Нью Ёрку ды быў ён і тут, пакуль дваццаць год назад кіраўніцтвы БАЗА, зь неналежных да абсягу іхнае дзейнасьці прычынаў, наважылі аб'явіць байкот духавенству й парахвіі Кат. Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага.

У выніку, замест ладзіць большыя ўрачыстасьці ў Нью Ёрку, гэтыя кіраўніцтвы пачалі падсуседзямі браць удзел ува ўрачыстасьцях ладжаных у Нью Джэрсы.

Непрактычнасьць гэткага становішча паказаў, аднак, нядаўні рост найновае эміграцыі, што й прымусіў кіраўніцтвы БАЗА ўзнавіць сьвяткаваньні ў Нью Ёрку.

Старыя навыкі зьнікаюць, аднак, вельмі павольна й неадумна пачаты байкот трывае далей, хоць духавенства Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ўшаноўвае ягонай прысутнасьцяй ладжаныя БАЗА-й урачыстасьці ды да парахвіі Сабору належыць нямала сяброў арганізацыі.

Дык, ці ня варта было-б кіраўніцтвам БАЗА пачаць практыкаваць адзінства й вярнуцца да прыйнятага ў нашым ды іншых хрысьціянскіх грамадзтвах парадку ўрачыстасьцяў?!

Дзівец

## ВІТАЕМ!

У травені г.г. пасьпяхова скончыў вышэйшы курс навукі на Ратгэрскім Унівэрсытэце й атрымаў дыплём магістра бізнэсавай адміністрацыі (master of business administration) сп. Леанід Войтанка.

Сп. Леанід Войтанка, сын ахвярных працаўнікоў на нашай царкоўнай ніве сп-ва Ганны й сьв. пам. Мікалая Войтанкаў, змалку йшоў сьледам бацькоў і дзядоў, ды нятолькі рэгулярна наведваў царкву, але й быў алтарным прыслужнікам у Гайлэнд Парку й Нью Ёрку.

Вітаем яго з новым асягненьнем і жадаем, каб з Божае ласкі у добрым здароўі шмат год цешыўся жыцьцёвай памыснасьцяй ды сямейным шчасьцем.

## ПАПРАЎКА

У выдадзенай у 1999-м годзе ў Менску кніжцы ўспамінаў ген. Францішка Кушаля "Спробы стварэньня беларускага войска" на бач. 131-й аўтар зрабіў памылку напісаўшы, што ў складзе дэлегацыі случчакоў, зь якою ён сустрэўся ў сьнежні 1919-га году ў Менску, быў паручнік Хведар Данілюк.

Гэткая сустрэча магла адбыцца толькі ўвосені 1920-га году ў Горадні, адкуль паручнікі Хведар Данілюк і, здаецца, Падгурскі, ды капітан Андрэй Якубецкі былі накіраваныя на падмогу слуцкім змагарам.

Далей аўтар ня ўспомніў, што пасьля паразы Слуцкага Змаганьня ён разам з паручнікам Данілюком служыў у 1-м Беларускім Батальёне ў Лодзі, пакуль гэты батальён ня быў разьвязаны палякамі.

Пасьля гэтага паручнік Хведар Данілюк вярнуўся на ранейшае становішча дзяка ў Вярэйкаўскай парахвіі, каля Ваўкавыска ды не праходзіў багаведных курсаў у Горадні, як піша аўтар успамінаў, а з увагі на тое, што ўзгадоўваўся й вучыўся ў Жыраўскім манастыры, быў усьвячаны ў сьвятарскую годнасьць.

Апрача гэтага а. Хведар Данілюк сустракаўся зь ген. Кушалям у канцы 1944-га й пачатку 1945-га гадоў у Бэрліне, калі бязвынікова спадзяваўся атрымаць прызначэньне на становішча вайсковага сьвятара пры арганізаванай тады беларускай дывізыі.

Сям'я а. Хведара Данілюка

---

**ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА Й ЗБОР АХВЯРАЎ НА ВЫДАНЬНЕ КАСЭТЫ ЗЬ БЕЛАРУСКІМІ ПЕСЬНЯМІ Ў ВЫСАКА МАСТАЦКІМ ВЫКАНАНЬНІ**

**ВАЛЯНТЫНЫ ПАРХОМЕНКА**

**й**

**АЛЕСЯ ДЫ ВОЛЬГІ КАЗАКОЎ**

**ПАШЛЕЦЕ ВАШУЮ ПАДПІСКУ, АБО АХВЯРУ НА ЙМЯ**

**L. YUREVICH, 204 AVE. N**
**BROOKLYN, N.Y. 11230**

---

**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-Й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ СЬПІСКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ, ЦІ ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.**

**АДРЫС:**

**401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702**
**TEL.: (1 718) 875-0595, TEL./FAX: (1 732) 873-8026**

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Ад душы шчыра вітаем Вас, нашыя Дарагія Дабрадзеі й Чытачы з Хрыстовым Нараджэньнем, ды жадаем, каб Народжаны ў Бэтлеэме наш Збавец Ісус Хрыстос ува ўзнагароду за Вашую працу на Ягонай ніве й ахвярнасьць на Ягоную Справу прыяў і шчодра памагаў Вам у Новым 2000-м годзе.

Просім і ўзноў выбачэньня, што не змаглі заахвочваць і падбадзёрваць Вас да гэтае працы й ахвярнасьці часьцейшым выдаваньнем "Царкоўнага Пасланца", але, як ці ў адной дабраахвотнай справе, у нас здараюцца й паўтараюцца цяжкасьці, якіх мы імкнемся пазбыцца ды якія маем надзею пакрысе адолець.

З гэтай мэтай спадзяемся павялічыць склад рэдакцыйнае калегіі ды, бяручы на ўвагу, што наш часапіс не прапаведніцкі, а царкоўна-інфармацыйны, пашырым тэматыку друкаваных у ім артыкулаў на нашыя нацыянальныя справы, патрэбы й праблемы, асьвятляючы іх з пункту гледжаньня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Гэтае асьвятленьне нацыянальных праблемаў з пункту гледжаньня нашае Царквы асабліва важнае, бо наш Народ захлынаецца ў фінансава добра забясьпечанай, або ўладамі падтрымоўванай прапагандавай паводцы замежных рэлігійных дзейнікаў, якую, замест выкрываць, адраджэнскі актыў ды дэмакратычная прэса неадумна, а часам і зь веры, няспынна пашыраюць.

У гэтым змаганьні за ўладу над рэлігійнай і нацыянальнай сьведамасьцяй нашага Народу чуцён толькі адзін голас ў абароне ейнае незалежнасьці ад прыкрываных пабожнымі словамі чужынецкіх намоваў ды за ейнае прысьвячэньне праз родную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву службе Богу й дадзенаму Ім нам Краю - а гэты голас "Царкоўны Пасланец".

Нажаль і гэтаму голасу цяжка адзывацца, бо нялёгка знайсьці адпаведныя матарыялы да друку ды беларуская эміграцыя на захадзе, якая толькі мае магчымасьць падтрымліваць выданьне матэрыяльна, разшчэпленая на царкоўныя асобнасьці, што ўзнаўленьнем роднае Праваслаўнае Царквы на Беларусі ня цікавяцца.

Усё-ж, сярод гэтае абыякавасьці, знаходзяцца людзі, што разумеюць вагу гэтае Справы й памагаюць весьціць яе на Бацькаўшчыне.

Гэтым разам за гэтую шчодрую дапамогу мы дзякуем наступным асобам: а. ппрсв. Я. Абабурка 70 д., А. Балотнік - 5 д., К. Вініцкі - 30 д., А. Войтанка - 25 д., К. Ворт - 50 д., Р. Галяк - 100 д., М. Грэбень - 90 д., Б. Данілюк - 100 д., В. Зайка - 20 д., Ю. Зэкаў - 20 д., Мітр. Ізяслаў - 20 д., М. Касьцюк - 15 д., М. Клакоцкі - 10 д., Н. Кірсон - 20 д., Ю. Лапіцкі - 50 д., Ю. Навумчык - 10 д., Р. Пракопчык - 5 д., М. Сагановіч - 20 д., др. М. Смаршчок - 30 д., А. Тальянскі - 50 д., Ю. Чарнышоў - 10 д.

Рэшту выдаткаў на часапіс пакрывае Кансысторыя БАПЦ і Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага.

Нашых дабрадзеяў хочам запэўніць, што іхная дапамога часапісу запісваецца на асобны рахунак парахвіяльнае касы й на падаткавыя патрэбы яны могуць атрымаць за іхныя ахвяры квіты.

Спадзяемся, што нашыя цяперашнія й ранейшыя дабрадзеі й далей на нас не забудуцца, а чытачы, што дасюль нас не падтрымалі пачуюць голас сумленьня й прышлюць іхныя шчодрыя ахвяры ў недалёкай будучыні.

Чэкі на прысыланыя ахвяры просім выпісваць на "Church Messenger".

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"